● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

27 студзеня 1998 г. аўторак, № 19 (23370)



# ЗВЯЗДА

*ТРАГЕДЫІ*

## ЗЛАШЧАСНАЯ СУБОТА

Трагічны лёс у мінулую суботу напаткаў некалькіх жыхароў рэспублікі. Праўда, у адным з выпадкаў са сваім жыццём чалавек вырашыў расстацца самастойна. Гэта здарэнне адбылося ў Мінску.

Прахожыя прыблізна каля паловы чацвёртай засталі на вуліцы Старобінскай страшную карціну: абліты чымсьці мужчына раптам ператварыўся ў жывы факел. Як удалося ўдакладніць крыху пазней, калі пацярпелага з мноствам апёкаў даставілі ў апёкавы цэнтр, мужчына знаходзіўся ў нецвярозым стане. Што прымусіла рабочага аднаго з аўтамабільных акцыянерных таварыстваў рашыцца на такі жудасны крок — абліцца бензінам і падпаліць сябе — пакуль невядома.

У гэты ж дзень у 10.30 раніцы ў Слуцку ў сваім гаражы ў «Жыгулях» былі знойдзены целы яго гаспадара і работніцы аднаго з прадпрыемстваў горада. Як устанавіла экспертыза, ніякіх прымет таго, што яны рассталіся з жыццём не па сваёй волі, няма. Магчыма, прычынай трагедыі стаў няшчасны выпадак.

Гора напаткала ў суботу і пенсіянерку з пасёлка Пулава, што ў Віцебскім раёне, да якой прыехаў на выхадныя сын з сябрам. Сталыя ўжо людзі, юрысты, вырашылі вечарам папарыцца ў лазні і добра яе выпалілі. Аднак, мабыць, нешта не дагледзелі: у выніку атручэння чадным газам абодва загінулі.

Ігар ГРЫШЫН.

*СТЫХІЯ*

## ПАВОДКА ЗАЦІХАЕ, АЛЕ ПРЫПЯЦЬ ЯШЧЭ «ТРАСЕ»

**Адліга, якая завітала да нас яшчэ ў канцы снежня, здаецца, нарэшце выдыхнулася. Паводле даных Дзяржкамітэта па гідраметэаралогіі, у апошні тыдзень на ўсіх рэках рэспублікі пачалося лёдаўтварэнне.**

На рэках басейна Прыпяці і Нёмана зноў з'явіліся закраіны лёду каля берагоў, крыгаход, а на асобных іх прытоках нават усталяваўся ледастаў з праталінамі. На Дняпры, Сожы і Заходняй Дзвіне назіраецца ледастаў з праталінамі таўшчынёй 13—35 см. На Мінскім моры таўшчыня лёду складае 24 см, Вілейскім вадасховішчы — 25 см, возеры Нарач — 28 см.

У той жа час на ўсёй працягласці ракі Прыпяць ад Пінска да Мазыра і нават ніжэй захоўваецца высокі ўзровень паводкі, і вада прыбывае па 1 см у суткі. На астатнім шляху Прыпяці ўзровень вады роўны і назіраецца нават невялікі (1—3 см у суткі) спад. Нягледзячы на гэта, па ўсім басейне Прыпяці і яе прытокаў (Піна, Гарынь, Случ, Убарць, Пціч) абалонныя землі яшчэ залітыя вадой на 35—165 см.

На іншых рэках у асноўным працягваецца спад узроўню вады з сутачнай інтэнсіўнасцю 1—26 см. На Бярэзіне і Беседзі каля в. Свяцілавічы пойма вызвалілася ад вады, і толькі на Дняпры каля Лоева і па рацэ Нараў абалонныя землі знаходзяцца пад вадой.

Сяргей КУРКАЧ.



## «ПРАГНОЗНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ НА 1998 ГОД ПАВІННЫ ЎСПРЫМАЦЦА ЯК МІНІМАЛЬНЫЯ ЗАДАННІ»



Важнейшыя параметры і мэтавыя паказчыкі прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 1997 год, вызначаныя ўказам прэзідэнта і пастановай урада, у асноўным выкананы. Стабілізавалася сітуацыя ў рэальным сектары эканомікі, ажывілася інвестыцыйная дзейнасць. Забяспечаны рост рэальнага ўзроўню жыцця насельніцтва рэспублікі. Гэтыя факты прыводзіліся на пашыраным пасяджэнні Савета Міністраў, дзе абмяркоўваліся вынікі работы народнай гаспадаркі рэспублікі за мінулы год і задачы на гэты год. Яно адбылося 26 студзеня пад старшынствам прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі.

Адкрываючы пасяджэнне, кіраўнік дзяржавы заклікаў прысутных правесці яго па-дзелавому, звярнуўшы асноўную ўвагу на нявырашаныя праблемы, прычыны і шляхі выхаду з узнікшай сітуацыі.

Паводле слоў прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, які выступіў са справаздачай, нягледзячы на значныя цяжкасці, летась удалося ўзмацніць пазітыўныя тэндэнцыі ў эканоміцы, стварыць важкія передумовы для далейшага руху наперад. У параўнанні з папярэднім годам вытворчасць валавога ўнутранага прадукту павысілася ў асноўным за кошт павелічэння прадукцыйнасці працы на 10 працэнтаў, а энергаёмістасць асноўнага паказчыка эканамічнага патэнцыялу скарацілася на 8 працэнтаў. Рост прыбытку ад рэалізацыі прадукцыі нарэшце апярэдзіў рост затрат на яе вытворчасць і збыт. Рэнтабельнасць народнай гаспадаркі з 5,7 працэнта ў студзені павысілася ў канцы года да 10,9 працэнта. Упершыню пасля 1991 года ўзраслі інвестыцыі. Выпуск прамысловай прадукцыі павялічыўся на 17,6, тавараў народнага спажывання — на 21,2 працэнта.

Зрухі ў лепшы бок стварылі перадумовы для развіцця сацыяльнай сферы. Колькасць беспрацоўных скарацілася амаль на адну трэць. А гэта, у сваю чаргу, аздаравіла сітуацыю на рынку працы. Амаль на 30 працэнтаў павялічылася будаўніцтва жылых дамоў. Рэальныя грашовыя даходы насельніцтва павысіліся на 5, а рэальная сярэднямесячная заработная плата — на 14,5 працэнта.

На думку Сяргея Лінга, імкненне забяспечыць устойлівы эканамічны рост і сацыяльны прагрэс прымушае ўрад крытычна ацэньваць дасягнутыя вынікі, механізм гаспадарання і эфектыўнасць работы рэспубліканскіх і мясцовых органаў кіравання. Таму такія негатыўныя працэсы, сказаў ён, як высокая інфляцыя, няўстойлівасць валютнага рынку, зацяжны дэфіцыт знешнегандлёвага балансу, слабыя зрухі ў аграрным сектары, прымушаюць яшчэ раз прааналізаваць зробленае і дакладна вызначыць задачы на будучыню. Дасягнутае ў мінулым годзе, паводле слоў прэм'ер-міністра, — гэта толькі першы крок на шляху стабілізацыі. Трэба будзе павысіць эканамічную эфектыўнасць, умацаваць фінансавы стан кожнага прадпрыемства, кожнай галіны. Толькі шляхам глыбінных, якасных змяненняў як у тэхналогіі вытворчасці, так і ў фінансавых сферах можна надаць развіццю народнай гаспадаркі дынамічны і незваротны характар.

Як адзначыў Сяргей Лінг, самай сур'ёзнай праблемай у эканоміцы была і застаецца інфляцыя. У сярэднім за месяц яе ўзровень склаў 4,2 працэнта пры плане 2 працэнты. Гэта сведчыць аб узмацненні інфляцыйных працэсаў у параўнанні з папярэднім годам, а значыць аб павышэнні цэн, страце абаротных сродкаў і накапленняў, стрымліванні росту рэальных даходаў насельніцтва. Таму цэнавая палітыка ўрада ў гэтым годзе будзе накіравана на вырашэнне дзвюх задач. Па-першае, утрымаць рост інфляцыі ў рамках не больш як 2 працэнты ў месяц, а, па-другое, праз узважаныя зрухі ў цэнах і тарыфах забяспечыць нармальныя ўмовы для рэнтабельнай работы таваравытворцаў і ліквідаваць аснову для масавага несанкцыяніраванага вывазу важнейшых прадуктаў харчавання з рэспублікі.

Прэм'ер-міністр засяродзіў увагу на вырашэнні шэрагу іншых праблем. У спрэчках па асноўнаму дакладу ўдзельнічалі міністр прамысловасці Анатоль Харлап, міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Шакола, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Мікалай Дамашкевіч, міністр эканомікі Уладзімір Шымаў, міністр знешніх эканамічных сувязяў Міхаіл Марыніч, старшыня праўлення Нацбанка Генадзь Алейнікаў, старшыні аблвыканкамаў, кіраўнікі прадпрыемстваў.

Падвёў вынікі пашыранага пасяджэння Савета Міністраў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, які старшынстваваў на ім.

Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што мінулы год быў годам напружанай работы. Зладжанасць у дзейнасці ўсіх галін улады, кансалідацыя грамадства далі чакаемы вынік. Але нельга жыць толькі сённяшнім днём. Таму 1998 год павінен стаць годам другога этапа рэфармавання эканомікі. Неабходна і далей нарошчваць выпуск прадукцыі, зніжаць яе сабекошт, павышаць канкурэнтаздольнасць, вучыцца гандляваць. Многія ўжо навучыліся гэта рабіць, але яшчэ далёка не ўсе. Трэба будзе старанна прааналізаваць вынікі гаспадарчай дзейнасці і выкарыстання сродкаў. Упэўненая тэндэнцыя да фінансавага аздараўлення прапрыемстваў радуе, аднак трэба неадкладна правесці санацыю стратных прадпрыемстваў і прыняць наспелыя меры. У тым ліку кадравага характару. Не трэба дапамагаць тым, хто працуе напаўсілы. У рэспубліцы шмат ініцыятыўных, дзейных людзей, яны і павінны ўзначальваць працоўныя калектывы.

Асаблівай увагі патрабуе праблема абнаўлення асноўных фондаў, зношаннасць якіх на шэрагу прадпрыемстваў перасягнула межы дапушчальнага. Без гэтага немагчыма сур'ёзна весці размову аб экспарце беларускай прадукцыі. Патрэбны цэлы комплекс мераў па падтрымцы экспарцёраў, асваенню новых тэхналогій. Важнейшай задачай з'яўляецца зніжэнне адмоўнага сальда знешнегандлёвага балансу. У гэтым жа радзе стаіць задача ўдасканалення механізма аплаты працы.

(Заканчэнне на 2-й стар.)





Яўген ПЯСЕЦКІ

*Ўсю ноч скавыш трубіў трывогу —*
*Уладу здрадзе не здаваць!*
*Зіма патрапіла ў аблогу,*
*І Студзеню на дапамогу*
*Харугвы Лютага ляцяць.*

*Мячы бліснуць не дзеля згоды,*
*Але ж усё святлей усход,*
*І ў прадчуванні крыгаходу*
*Усё цямней набраклы лёд.*

*І трызніць сівер ў час світання,*
*Як праглі вусны у завеі, —*
*Ім прадракае расставанне*
*Нячутны подых веснавеі...*

*НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ*

## СНЕГУ НЯМА, А ЧЭМПІЯНАТ ПА БІЯТЛОНУ — БУДЗЕ!

**Сёння ў Мінску адбудзецца ўрачыстае адкрыццё чэмпіянату Еўропы па біятлону.**

Зноў, як і восем гадоў таму, калі ў славутым на ўвесь спартыўны свет комплексе «Раўбічы» праводзіўся сусветны чэмпіянат, такое адказнае і ганаровае для гаспадароў мерапрыемства апынулася пад пагрозай зрыву. Нагадаю аматарам спорту: тады, у 1990-м, сусветнае першынство з-за адсутнасці снегу было перанесена ў больш спрыяльнае месца. Але гэтак было тады... Сёння сітуацыя крыху іншая.

Сёлетняй зімой снег на Беларусі, як вядома, быў. На жаль, капрызамі надвор'я мы пакуль што кіраваць не ўстане. І калі на пачатку студзеня наша зямля-карміцелька (у прамым і пераносным сэнсе слова) раптам аказалася «голай», арганізатары еўрапейскага чэмпіянату не на жарт захваляваліся.

Захваляваліся, ды не разгубіліся. Сапраўды, не чакаць жа літасці ад прыроды, як казаў адзін вялікі пераўтваральнік яе. На ўвесь свет беларускія спартыўныя функцыянеры заявілі: першынство кантынента адбудзецца пры любым надвор'і!

...Апошнімі днямі ў Раўбічах вялікае ажыўленне. Без мітусні, аднак па-дзелавому актыўна тут працуюць зараз студэнты і вайскоўцы, з дзесятак энтузіястаў. Справу хапае: перабацтавана стрэльбішча, дзе-нідзе заменены асфальт, прыбраны пад'езды да гасцінічных і службовых карпусоў... А галоўнае — снег. Яго ў прамым сэнсе збіраюць — ледзь не па крупінках — з навакольных палеткаў, узлескаў. Траса павінна быць! На поўную магутнасць працуюць тры так званыя снежныя гарматы. І траса «расце» на вачах.

Для ўдзелу ў чэмпіянаце ў нашу сталіцу прыбылі каманды 18 краін. Біятланісты Германіі, Італіі, Нарвегіі, Швецыі, Фінляндыі, Расіі, Польшчы, Украіны адчуваюць сябе тут як дома.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ... НАПЕРАДЗЕ — ЧАРГОВАЕ ПАДАРАЖАННЕ ГАРЭЛКІ

**Як вядома, з пачатку года цэны на шэраг тавараў, паслуг і прадуктаў харчавання зноў «заварушыліся» ў бок павелічэння. На першы погляд, нічога дзіўнага ў тым, што крыху «падрасце» і кошт гарэлкі, не было б, каб народнае «радыё» не данесла да рэдакцыі лічбу гэтага росту — 8 тысяч рублёў за бутэльку.**

Як паведаміла крыніца, якая пажадала застацца невядомай, гэтыя чуткі, хутчэй за ўсё, выкліканы мяркуемым павышэннем дзяржавай акцызнай стаўкі на алкаголь. На сённяшні дзень у цане бутэлькі «белай» акцызы складаюць каля 80 працэнтаў. Гэтая планка можа яшчэ больш узняцца, калі нарэшце адбудзецца ўдасканаленне самой сістэмы падаткаабкладання. Як вядома, у нас падаткі зараз вызначаюцца і плацяцца ў залежнасці ад віду алкагольных напояў, у той час як сусветная практыка зусім іншая: там падатак вылічваецца з аднаго літра абсалютнага алкаголю. Калі сістэма падаткаабкладання будзе ўдасканалена, сапраўды, магчыма, кошт бутэлькі «белай» значна ўзрасце. Але пакуль усе прапановы адносна гэтага яшчэ толькі разглядаюцца, таму, па словах крыніцы, у бліжэйшы час варта чакаць толькі даволі нязначнага павелічэння кошту гарэлкі — на славутыя два працэнты. На думку спецыялістаў, цяперашняя рэнтабельнасць прадпрыемстваў гэтай галіны яшчэ дазваляе вытрымваць такі падыход. З іншага боку, ужо неаднойчы на самых розных узроўнях заяўлялася, што айчынная гарэлка — танная. Для прыкладу заўсёды прыводзяць Расію, дзе кошт «белай» удвая большы, чым у нас. Ці стаяць за гэтым перакананнем пэўныя меры і ці здзейсняцца яны ў перспектыве — магчыма, стане ясна даволі хутка...

Сяргей РАСОЛЬКА.

## «ПРАГНОЗНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ НА 1998 ГОД ПАВІННЫ ЎСПРЫМАЦЦА ЯК МІНІМАЛЬНЫЯ ЗАДАННІ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Значная ўвага ў выступленні кіраўніка дзяржавы была ўдзелена развіццю сацыяльнай сферы. Па-першае, неабходна навесці належны парадак на існуючых аб'ектах, па-другое, вызначыць, што трэба пабудаваць для таго, каб больш поўна задавальняць патрэбнасці людзей. Асаблівыя клопаты — аб ахове мацярынства і дзяцінства, аб'ектах аховы здароўя, фізкультуры і спорту, школах. Па-ранейшаму пільная ўвага будзе ўдзяляцца жыллёваму будаўніцтву. У мінулым годзе 55 тысяч беларускіх сем'яў справілі наваселле. Гэты паказчык трэба не толькі вытрымаць сёлета, але і перасягнуць яго. Прытым неабходна арыентавацца на новыя, павышаныя стандарты якасці. Планы будаўніцтва жылля і аб'ектаў сацыяльнага прызначэння будуць жорстка кантралявацца, адзначыў прэзідэнт.

У 1998 годзе трэба будзе замацаваць станоўчыя тэндэнцыі ў эканоміцы, падкрэсліў А. Р. Лукашэнка. Гэты год павінен стаць годам новых канкрэтных спраў. Паказчыкі прагнозу неабходна разглядаць як мінімальныя заданні. Дзяржава будзе актыўна займацца рэгуляваннем эканамічных і сацыяльных працэсаў, зыходзячы з таго, што гэта з'яўляецца адной з неабходных умоў дасягнення пастаўленых мэт.

Прадугледжваецца, што падрабязны пераказ выступлення прэзідэнта будзе апублікаваны ў друку.

**БЕЛТА.**

## РАБОЧЫЯ БУДНІ КІРАЎНІКА ЎРАДА

На гэтым тыдні рабочы графік прэм'ер-міністра краіны Сяргея Лінга вельмі насычаны. Як паведаміў БЕЛТА яго прэс-сакратар, у панядзелак кіраўнік урада прыняў удзел і выступіў з дакладам на пашыраным падагульняючым пасяджэнні Савета Міністраў, якое праходзіла пад старшынствам прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі.

Чакаецца, што ў аўторак прэм'ер-міністр прыме Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла КНР у Беларусі Чжао Сідзі ў сувязі з заканчэннем тэрміну яго знаходжання ў нашай краіне.

На чацвер запланаваны ўдзел кіраўніка ўрада ў рабоце Камісіі пры прэзідэнце краіны па атэстацыі кіруючых кадраў. У гэты ж дзень ён прыме прадстаўнікоў Міжнароднай фінансавай карпарацыі.

На працягу тыдня прэм'ер-міністр Сяргей Лінг таксама правядзе шэраг рабочых нарад і сустрэнецца з кіраўнікамі міністэрстваў і цэнтральных органаў кіравання.

**БЕЛТА.**

## ПЕНСІІ Ў ЛЮТЫМ

**У лютым 1998 года органамі сацыяльнай абароны будзе зроблены пераразлік працоўных пенсій у сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы.**

Пры пераразліку пенсій у лютым прымяняецца сярэдняя заработная плата рабочых і служачых за снежань 1997 года — 3.461.972 руб., якая перавысіла аналагічную велічыню за верасень 1997 года (2.837.445), якая ў сваю чаргу прымянялася пры апошнім пераразліку пенсій, на 22 працэнты.

Пры налічэнні памеру пенсій улічваецца адпаведная велічыня заработку пенсіянера ад 130 працэнтаў сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы за снежань, вызначаная па правілах артыкула 56 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні». Максімальны заробак, з якога налічаецца пенсія ў лютым, пры індывідуальным каэфіцыенце заробку пенсіянера 1,3 і вышэй з улікам абмежавання ў адпаведнасці з артыкулам 56 Закона складае 2.475.310 руб.

Памер пенсіі канкрэтнага пенсіянера залежыць ад заработнай платы, з якой прызначана пенсія, і працягласці працоўнага стажу. Пры стажы 45 і 40 гадоў (адпаведна ў мужчын і жанчын) і індывідуальным каэфіцыенце заробку пенсіянера 1,3 і вышэй памер пенсіі ў лютым складзе 1.856.500 руб. — гэта максімальна магчымы памер пенсіі, налічанай зыходзячы з наяўнага ў пенсіянера стажу і заработку (без надбавак і павышэнняў).

Памер пастаяннай даплаты, устаноўленай да працоўных пенсій, налічаных у мінімальным памеры, у лютым складзе 122 працэнты мінімальнай пенсіі па ўзросту, ці 457.500 руб. У выніку мінімальны памер працоўнай пенсіі па ўзросту з улікам даплаты пры стажы 25 гадоў у мужчын і 20 гадоў у жанчын складзе ў лютым 832.500 руб. (375.000 руб. — мінімальны памер пенсіі + 457.500 руб. — даплата да мінімальнай пенсіі).

Памеры надбавак да пенсій і павышэнняў пенсій, прадугледжаныя заканадаўствам для некаторых катэгорый пенсіянераў (удзельнікі і інваліды вайны, сем'і загінуўшых і інш.), у лютым не зменяцца, таму што яны ўстанаўліваюцца ў працэнтным адносінах да мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту і былі павялічаны ў студзені, у сувязі з павелічэннем мінімальнай заработнай платы.

У параўнанні з папярэднім месяцам пенсіі ў лютым у сярэднім узрастуць на 21 працэнт. Пры гэтым памеры максімальных пенсій павялічацца на 22 працэнты, павышэнне мінімальных пенсій складзе 11 працэнтаў. Неабходна адзначыць, што ў студзені памеры мінімальных пенсій павышаліся на 13,6 працэнта, у той час як іншыя працоўныя пенсіі не павялічыліся.

У лютым будзе праведзена індэксацыя на 5,1 працэнта сацыяльных пенсій, дапамог, фіксаваных даплат і кампенсацый, устаноўленых Законам «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на ЧАЭС», дапамог працаздольным непрацуючым людзям, якія даглядаюць састарэлых ці інвалідаў I групы.

Дзяржаўныя дапамогі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, у лютым індэксуюцца на 11,4 працэнта.

У цэлым расходы на выплату пенсій у лютым у параўнанні са студзенем узрастуць на 690 млрд. руб. і складуць 3 трлн. 947 млрд. руб.

**Ніна ЛУЗІНА,**
**галоўны інспектар**
**упраўлення пенсій і дапамог**
**Мінсацабароны**
**Рэспублікі Беларусь.**

## БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**27 студзеня.**

85 гадоў з дня (1913) першай пастаноўкі камедыі Я. Купалы «Паўлінка» Беларускім музыкальна-драматычным гуртком у Вільні.

75 гадоў з дня нараджэння (1923) А. С. Казлоўскага, жывапісца, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

* * *

***Адным сэрцам свету не запаліш.***
Народная прымаўка.



## *ДА 120-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БАЛГАРЫІ АД АСМАНСКАГА ПРЫГНЁТУ*

БЕЛАРУСЬ І БАЛГАРЫЯ... Мы ганарымся і даражым нашымі цёплымі, сардэчнымі адносінамі, выпрабаванымі часам і неспагадным лёсам.

Духоўная лучнасць народаў-братоў працягваецца і сёння. Наша дружба можа таму не падуладная часу, што яе мацавалі і мацуюць найлепшыя людзі беларускай і балгарскай зямлі.

Вось і сёння ідуць насустрач адзін аднаму стваральнікі духоўных каштоўнасцяў: з берагоў Свіслачы — прафесар Генадзь Цыхун, пісьменнік Уладзімір Аніскові́ч, паэты Алесь Разанаў і Анатоль Вярцінскі, а з берагоў сіняга Дуная — пісьменнікі Стэфан Паптонеў, Венета Козарава, паэты Найдэн Вылчаў, Алена Алекава, грамадскі дзеяч Любка Цанкава. Іх нераўнадушнасць да лёсу беларускага і балгарскага народаў, іх любоў да зямлі, да людзей, да культуры не можа не перадавацца маладым — таксама цікаўным і нераўнадушным. Таму ў таварыстве «Беларусь — Балгарыя» працуе шмат моладзі. Пытанні для віктарыны «Дружба праз гады і выпрабаванні», прысвечанай 120-годдзю вызвалення Балгарыі ад асманскага прыгнёту, падрыхтавалі менавіта маладыя — студэнты Аксана Бубнова, Марына Золатава, Сяргей Бутэвіч.

Да нацыянальнага свята Балгарыі, якое будзе адзначацца 3 сакавіка таварыства «Беларусь — Балгарыя» падрыхтавала шмат мерапрыемстваў. Але таму, хто захоча ў іх удзельнічаць, мы вельмі раілі б звярнуцца да гісторыі беларуска-балгарскіх адносінаў, і ў першую чаргу да падзей руска-турэцкай вайны 1877—1878 гг. Зрабіць гэта дапаможа вам наша віктарына.

**Нам. старшыні прэзідыума БелТД Ніна ІВАНОВА.**

### УМОВЫ ВІКТАРЫНЫ «ДРУЖБА ПРАЗ ГАДЫ І ВЫПРАБАВАННІ»

*У віктарыне могуць прыняць удзел усе жадаючыя. Кожны правільны адказ ацэньваецца пэўнай колькасцю балаў. Найбольш поўны і дакладны адзначаецца дадатковым балам. Удзельнікі, якія набяруць найбольшую колькасць балаў, стануць пераможцамі і будуць узнагароджаны падарункамі.*

***Адказы на пытанні могуць быць напісаны ад рукі на беларускай, рускай ці балгарскай мовах і дасланы да 22 лютага 1998 года па адрасу: 220034, Мінск, вул. Захарава, 28, таварыства «Беларусь — Балгарыя» (віктарына).***

**ПЫТАННІ ВІКТАРЫНЫ**

**1. Калі здбылося самае буйное паўстанне балгарскага народа супраць турэцкага прыгнёту? Назавіце найбольш вядомых кіраўнікоў гэтага паўстання.** (2 балы за правільны адказ.)

**2. Калі і кім быў падпісаны маніфест аб аб'яўленні вайны Турцыі і калі пачаліся ваенныя дзеянні?** (3 балы.)

**3. Хто быў галоўнакамандуючым рускай арміяй, колькі воінаў налічвала руская армія на пачатку вайны? Якіх генералаў—герояў руска-турэцкай вайны вы ведаеце?** (3 балы.)

**4. Якія ваенныя фарміраванні з Беларусі ўдзельнічалі ў руска-турэцкай вайне? Хто з беларусаў вызначыўся мужнасцю і гераізмам у барацьбе за вызваленне Балгарыі ад асманскага прыгнёту?** (3 балы).

**5. Назавіце балгарскі горад, які быў вызвалены першым. Якое беларускае ваеннае фарміраванне ўдзельнічала ў вызваленні горада? Чым яшчэ яно вызначылася падчас руска-турэцкай вайны?** (3 балы.)

**6. Калі быў вызвалены г. Тырнава і хто камандаваў войскам, якое вызваліла гэты горад? Што вы ведаеце пра гэтага чалавека?** (3 балы.)

**7. Хто з беларусаў праславіўся ў баях на Шыпцы і ў Плевенскай эпапеі і што вам пра іх вядома?** (3 балы.)

**8. Калі, кім і дзе быў падпісаны мірны дагавор паміж Расіяй і Турцыяй?** (3 балы.)

**9. Як у нашай краіне ўшанаваны подзвіг беларусаў, загінуўшых на руска-турэцкай вайне?** (2 балы.)

**10. Якія помнікі-манументы ў Балгарыі ўвекавечваюць падзеі руска-турэцкай вайны?** (3 балы.)

**11. Хто з вядомых рускіх мастакоў удзельнічаў у руска-турэцкай вайне, у якіх яго творах адлюстраваны гэтыя падзеі?** (1 бал.)

**12. Якія рускія і беларускія літаратары звярталіся ў сваёй творчасці да падзей руска-турэцкай вайны? Назавіце гэтыя творы.** (5 балаў.)

## СНЕГУ НЯМА, А ЧЭМПІЯНАТ ПА БІЯТЛОНУ — БУДЗЕ!

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Траса і ўмовы спаборніцтваў у Раўбічах ім добра знаёмыя. На жаль, тэрмін правядзення еўрапейскага чэмпіянату выбраны крыху няўдала: неўзабаве ж Алімпійскія гульні ў Нагана, і мацнейшыя з мацнейшых «страляючых лыжнікаў» сёння думаюць пра далёкую Японію, а не пра бясснежную Беларусь. Тым не менш — чэмпіянат кантынента таксама па ўзроўню спаборніцтвы што трэба...

**Заўтра, у сераду, першыя старты. Мужчыны і жанчыны стартуюць на дыстанцыях адпаведна 20 і 15 кіламетраў, юніёры і юніёркі — 15 і 10. 30 студзеня — спрынтэрскія дыстанцыі, 31-га — гонкі праследавання. Ну а ў нядзелю, 1 лютага, — «изюминка» біятлону: эстафеты 4х7,5 кіламетра ў мужчын і юніёраў, 3х7,5 км — у жанчын і юніёрак.**

Беларуская зборная мае намер выставіць на чэмпіянаце першых нумароў каманды: Святлану Парамыгіну, Алега Рыжанкова, Вадзіма Сашурына, Аляксея Айдарава, Аляксандра Папова... Адны са спецыялістаў лічаць, што такі крок перад Нагана непрадуманы, другія — наадварот: маўляў, не пашкодзіць! Што ж, час пакажа, хто з іх мае рацыю.

Калі нумар ужо падпісваўся ў свет, мы з вялікай цяжкасцю ўсё ж знайшлі асноўнага арганізатара чэмпіянату і галоўнага суддзю адначасова, дырэктара спартыўнага комплексу «Раўбічы» Аляксандра Хандогіна. Яму было ўчора не да інтэрв'ю, аднак наш стары сябра «ўважыў»: «Усё будзе добра. Гляньце: ужо некалькі «белых мух» кружыць у паветры...»

**Анатоль ПАМОРСКІ.**

## У ПАДАЗРАВАЕМЫХ У ЗАБОЙСТВЕ МІКАЛУЦКАГА КАНФІСКАВАНА ВЯЛІКАЯ КОЛЬКАСЦЬ УЗРЫЎЧАТКІ І ЗБРОІ

**У асоб, затрыманых па падазрэнню ў дачыненні да забойства асабістага сябра прэзідэнта Беларусі, старшыні камітэта дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага, канфіскавана вялікая колькасць выбуховых рэчываў і агнястрэльнай зброі.**

Аб гэтым у суботу заявіў у інтэрв'ю нацыянальнаму тэлебачанню дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Беларусі Віктар Шэйман. Паводле яго слоў, узрыўчатка, канфіскаваная ў злачынцаў, аналагічная выбуховаму ўстройству, якое было закладзена ў доме Я. Мікалуцкага. Акрамя таго, следства, адзначыў В. Шэйман, знайшло месца ў лясным масіве паблізу Магілёва, дзе злачынцы праводзілі выпрабаванні выбуховых устройстваў.

Дзяржсакратар СБ таксама паведаміў, што акрамя ўзрыўчаткі і зброі ў затрыманых таксама канфіскаваны «спецсродкі, якія давалі магчымасць праслухоўваць тэлефонныя перагаворы чыноўнікаў, а таксама прадстаўнікоў сілавых структур Магілёўскай вобласці».

**ІНТЭРФАКС.**



## АГУЛЬНЫЯ ІНТАРЭСЫ — АСНОВА ДЛЯ СУПРАЦОЎНІЦТВА

**Напярэдадні візіту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў Саюзную Рэспубліку Югаславію кіраўнік дыпламатычнага прадстаўніцтва гэтай краіны пасол Нікола Пеякавіч падзяліўся сваім бачаннем перспектыў двухбаковых адносінаў, расказаў пра ўнутранае і знешнепалітычнае становішча СРЮ, пра тое, чаго чакаюць югаславы ад мяркуемай сустрэчы на вышэйшым узроўні.**

Паводле слоў дыпламата, супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Югаславіяй застаецца традыцыйна сяброўскім яшчэ з часоў існавання СССР і СФРЮ. Пэўным штуршком да актывізацыі адносінаў стаў прыезд у Мінск у красавіку 1996 года кіраўніка саюзнай дзяржавы: за непрацяглы час паміж нашымі краінамі былі падпісаны восем дагавораў і пагадненняў, якія ствараюць прававую базу двухбаковых адносінаў. Несумненна, галоўным дакументам з'яўляецца дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве. Аднак, калі казаць пра канкрэтныя лічбы тавараабароту, то яны пакуль застаюцца на невысокім узроўні. Згодна з ацэнкай сп. Пеякавіча, на глебе супрацоўніцтва, асабліва эканамічнага, можна было б дасягнуць і большых поспехаў, калі б не моцны ўплыў унутраных палітычных праблем у кожнай дзяржаве, якія назіраліся на працягу некалькіх мінулых гадоў.

Разам з тым пасол неаднаразова падкрэсліў, што Бялград разглядае Беларусь як адну з самых дружалюбных краін. Свае словы ён праілюстраваў тым, што наша дзяржава аказвала дапамогу Югаславіі нават у той час, калі сусветным супольніцтвам у адносінах да Белграда былі ўведзены жорсткія палітычныя і эканамічныя санкцыі.

Дарэчы, адказваючы на пытанне «Звязды», Нікола Пеякавіч пацвердзіў, што частка гэтых санкцый не знята да гэтага часу. Асабліва складана развіваюцца палітычныя ўзаемаадносіны. У прыватнасці, Югаславія, якая фармальна лічыцца членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і плаціць рэгулярна ўзносы, фактычна не мае права ўдзельнічаць у пасяджэннях гэтай сусветнай арганізацыі. Такая ж карціна назіраецца і ў адносінах з агульнаеўрапейскімі структурамі накшталт АБСЕ ці Савета Еўропы, дзе Югаславія не прадстаўлена ніякім чынам.

Вяртаючыся да маючага адбыцца візіту, пасол заўважыў, што паміж Беларуссю і Югаславіяй застаецца шмат агульнага. Таму паездка прэзідэнта, на яго погляд, паспрыяе знаходжанню новых шляхоў узаемаадносінаў і стане імпульсам для больш цесных кантактаў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ЮГАСЛАВІЯ — НАШ ПРЫЯРЫТЭТ НА БАЛКАНАХ

**Дыпламатычныя адносіны з гэтай краінай былі ўсталяваны крыху больш як 4 гады таму і паступова развіваліся ў канструктыўным рэчышчы. Па меркаванню нашых экспертаў з МЗС краіны, адносіны з Югаславіяй можна аднесці да разраду прыярытэтных на Балканах.**

Гэта краіна, як і Беларусь, не з'яўляецца членам Савета Еўропы. Захад фактычна блакіраваў прыём Югаславіі ў члены АБСЕ. Усё гэта робіць Югаславію патэнцыяльным саюзнікам Беларусі ў Еўропе. Югаславія таксама вельмі зацікаўленая ў развіцці двухбаковых адносінаў з Беларуссю.

Беларусь займае паслядоўную пазіцыю падтрымкі Саюзнай Рэспублікі Югаславіі ў пытанні аднаўлення яе членства ў ААН. У кастрычніку 1997 г. у рамках 52-й сесіі Генасамблеі ААН на рабочай сустрэчы міністраў замежных спраў І. Антановіча і М. Мілуцінавіча быў абмеркаваны шырокі круг пытанняў двухбаковых адносінаў і супрацоўніцтва ў міжнародных арганізацыях.

У верасні 1997 года прадстаўнікі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу ў якасці назіральнікаў знаходзіліся ў Сербіі ў час правядзення прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў. Сёлета плануецца візіт у Мінск Старшыні Веча рэспублік Саюзнай Скупшчыны Югаславіі С. Бажовіча.

На добрым узроўні развіваюцца эканамічныя сувязі з Югаславіяй. У параўнанні з 1993 г. значна вырас гандлёвы абарот. Беларусь пастаўляе сваім партнёрам трактары, калійныя ўгнаенні, кухонную соль, хімічныя сінтэтычныя валокны, поліэфір і г. д. Імпартуе — машыны і абсталяванне, акумулятары, маслічнае насенне, каўчук і гумавыя вырабы, запчасткі для аўтамабіляў, дубільныя экстракты.

У ходзе візіту прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, як паведамілі ў Міністэрстве замежных спраў, плануецца падпісанне Сумеснай беларуска-югаслаўскай заявы і наступных міжурадавых пагадненняў: аб паветраных зносінах, аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання, аб супрацоўніцтве ў галіне ветэрынарыі, аб супрацоўніцтве ў галіне каранціну і аховы раслін.

Некалькі слоў пра СРЮ. Яна аб'ядноўвае дзве рэспублікі — Рэспубліку Сербію і Рэспубліку Чарнагорыю. Іх насельніцтва прыкладна роўнае Беларусі — крыху больш за 10 млн. чалавек.

Важным дасягненнем мінулага года можна лічыць тое, што краіна зноў пачала забяспечваць сябе прадуктамі харчавання і нават частку адпраўляць на экспарт. Даволі бурнае развіццё атрымаў знешні гандаль. Рост склаў 20 працэнтаў і дасягнуў аб'ёму 7,16 млрд. долараў ЗША. Галоўныя партнёры СРЮ — Германія, Італія, Расія.

Назіральнікі з МЗС Беларусі адзначаюць сур'ёзную падрыхтоўку ў СРЮ да маштабных рыначных рэформаў. Яны вылучаюць важнасць прыняцця закона аб трансфармацыі ўласнасці.

Разам з тым на эканоміку Югаславіі ўплываюць шэраг такіх адмоўных фактараў, як беспрацоўе (700 тыс. чалавек), значная колькасць стратных прадпрыемстваў, вялікая знешняя (9 млрд. долараў) і ўнутраная (4,5 млрд. долараў) запазычанасць.

У знешняй палітыцы СРЮ праводзіць так званую «еўрапейскую арыентацыю», мэты якой у перспектыве накіраваны на ўступленне ў Еўрапейскі саюз і, магчыма, у НАТО. СРЮ актыўна шукае шляхі нармалізацыі адносінаў з Саветам Еўропы, АБСЕ, іншымі ўплывовымі еўрапейскімі арганізацыямі.

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 26 СТУДЗЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 42050 | 42500 | 23300 | 24000 | 6950 | 7000 | 636-080 |
| Белаграпрамбанк | 40000 | | 22000 | | 6500 | | 285-716 |
| Беларускі біржавы банк* | 41500 | 42500 | 22500 | 23500 | 6700 | 7000 | 685-523 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 31470.00 | | 17793.74 | | 5200.00 | | Курс на 27.01.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0200 | | 3.4137 | | 10000 BLR - 1.3917 | | |

*Каціруецца ўкраінская грыўня

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 43250 | 43320 | 24420 | 24466 | 7149 | 7162 | |

УСЛЕД ЗА ПАДЗЕЯЙ

# ПТУШКІ І ДЗЕЦІ

***Роздум пасля афіцыйнага адкрыцця (у мінулую пятніцу) у Астрашыцкім Гарадку пад Мінскам корпуса рэабілітацыі анкалагічна хворых дзяцей з бацькамі***



*НА ЗДЫМКАХ: старшыня таварыства «Дзеці ў бядзе»* ***Яўген Украінцаў*** *з падарачным варыянтам дадатковага грашовага чэка з Германіі; прэзідэнт нямецкай асацыяцыі «Сонца — дзецям Чарнобыля»* ***Карла Аўрых*** *пасябравала з беларускай дзяўчынкай; маленькая пацыентка ў пакоі для гульняў.*

**МІНЧАНІН Уладзімір Вільтоўскі, работнік фірмы «Лангуст», які цяпер разам з дзесяцігадовай дачкой «кватаруе» у новай медустанове (аб ходзе яе будаўніцтва «Звязда», дарэчы, пісала не аднойчы), — адзіны мужчына сярод тых маці, якія таксама прыехалі сюды са сваімі хворымі дзецьмі.**

**— З 5 па 28 студзеня дачка праходзіць курс рэабілітацыі, — расказвае Уладзімір Віктаравіч. — А я, можна сказаць, пры ёй: здароўе яе, калі побач бацька, аднаўляецца хутчэй. Спецыяльныя працэдуры, масаж, ванны мая дзяўчынка прымае ў галоўным корпусе. У нас утульны і светлы пакой на дваіх. Харчуемся добра — вось і фрукты яшчэ засталіся ў вазачцы, не паспелі з'есці. Пуцёўкі ў нас, заўважу, бясплатныя — па лініі Міністэрства аховы здароўя. Дзякуй і Беларускаму рэспубліканскаму таварыству «Дзеці ў бядзе» — яно нам вельмі дапамагло.**



**Прывядзём цяпер факт крыху іншага плана. У адным з невялікіх гарадкоў зямлі Рэйнланд-Пфальц жыве старая жанчына-пенсіянерка, якіх шмат. Штомесяц яна адкладвала (робіць гэта і цяпер) са сваёй пенсіі па 10 марак. А потым пачынала займацца вельмі цяжкай для свайго ўзросту «фізкультурай» — узлазіла на крэсла і складвала грошы ў скрыначку на шафе. Рабіла ж яна так для таго, каб не было спакусы лішні раз узлезці і патраціць сабранае на ўласныя патрэбы. У выніку ўсе гэтыя грошы пенсіянерка заўсёды аддае ў чарнобыльскі фонд. Як бачым, гуманітарная дапамога, якая прыходзіць з Германіі ў Беларусь, дастаецца няпроста, з неба не падае.**

**Факты самыя простыя, жыццёвыя. Што паміж імі агульнага? А яно ёсць. Памянёная ўжо дзяўчынка праходзіць рэабілітацыю якраз у тым корпусе (цяпер ужо — рэабілітацыйным аддзяленні рэспубліканскага дзіцячага санаторыя «Астрашыцкі Гарадок»), які нядаўна здадзены ў эксплуатацыю і на ўзвядзенне якога нямецкія дабрачынцы сабралі 200 тысяч дойч-марак.**

**... Кожны, хто наведвае гэты куток у Астрашыцкім Гарадку ўлетку, заўсёды адзначае яго цудоўныя краявіды. Тут, на паўвостраве, акружаным з трох бакоў рэчкай Усяж і возерам — цудоўны лес, лодкі, рыбакі і цішыня. Калі ж яна і парушаецца, то хіба што заклікальнымі крыкамі чаек, якія разносяцца над воднай прасторай. Усё гэта разам узятае і называецца прыроднай псіхатэрапіяй.**

**Што патрэбна адносна, скажам так, здароваму чалавеку? Сонца, як гаворыцца, паветра і вада. Тое ж неабходна, нават у большай ступені, і хвораму. Асабліва калі гэта дзіця, ды яшчэ і жыве яно ў забруджанай радыенуклідамі зоне. Усё вышэйназванае і маецца ў распараджэнні хворых дзяцей, як і дапамога кваліфікаваных урачоў.**



Наогул у цэлым адкрыццё рэабілітацыйнай установы мала чым адрознівалася ад іншых падобных мерапрыемстваў — гучалі прамовы, словы падзякі, дзецьмі быў дадзены канцэрт. Кіраўнік мінскага будтрэста № 1, які ўзвёў гэты прыгожы корпус, Міхаіл Найдзёнаў уручыў галоўнаму ўрачу санаторыя Галіне Радзівонавай сімвалічны ключ ад новага будынка. Намеснік міністра аховы здароўя Раіса Сакалоўская ад імя кіраўніка галіны ўзнагародзіла граматамі тых, хто найбольш вызначыўся ў «будаўнічай эпапеі», хто задумаў і здзейсніў высакародную гуманітарную акцыю. Былі ўручаны і спецыяльныя лайнс-медалі — ад грамадскай арганізацыі, так званага лайнс-клуба зямлі Рэйнланд-Пфальц Германіі. Самым багатым на ўзнагароды, між іншым, аказаўся старшыня БРТ «Дзеці ў бядзе» (які быў ініцыятарам акцыі) Яўген Украінцаў.

Не будзем, аднак, займацца пераказам таго, што адбывалася ў гэты сонечны дзень, а лепш засяродзімся на некаторых думках, што выказаў «двойчы лаўрэат»:

— Зразумела, што ў таварыства «Дзеці ў бядзе» сёння свята, бо ажыццявілі мару, да якой ішлі тры гады, — заявіў Я. Украінцаў. — Я ўспамінаю гады хаджэнняў па дзяржаўных кабінетах, дзе нам давалі пустыя парады, пасылалі і туды, і сюды. Сапраўдную падтрымку, аднак, мы знайшлі толькі ў Мінахове здароўя: там у нас адразу паверылі.

Сказаць, што ўвядзенне корпуса рэабілітацыі, рэалізацыя самой ідэі даліся нялёгка, — значыць сказаць вельмі мала. Колькі пахадзіў кіраўнік таварыства «Дзеці ў бядзе» па калідорах хоць бы таго ж Дзяржкамчарнобыля, а цяпер Міністэрства па надзвычайных сітуацыях! Энтузіясты знайшлі ў Гродзенскай вобласці нават і месца, дзе можна было б арганізаваць рэабілітацыйны цэнтр — туды выехала цэлая камісія з Дзяржкамчарнобыля і іншых ведамстваў. А пасля гэтай дэманстрацыі актыўнасці і заклапочанасці вельмі высокапастаўлены чыноўнік з дзяржкамітэта пры сустрэчы са старшынёй таварыства прадэманстраваў іншае — карцінна вывернуў кішэні: маўляў, бачыш, што ў мяне для вас няма ні капейкі — і пакідайце вы свае ідэі і надзеі! У Мінахове здароўя працуюць усё ж такі не проста кіраўнікі галіны, але яшчэ і ўрачы па спецыяльнасці. А яны, як вядома, лепш разумеюць і ўспрымаюць чужы боль. Таму і знайшлі магчымасці, дабавілі да грошай нямецкіх дабрачынцаў два разы па столькі і яшчэ паўстолькі.

— За сваё жыццё я атрымаў шмат розных грамат, — не без гумару заўважыў Я. Украінцаў. — Атрыманую ж сёння я спецыяльна павешу ў рамачцы ў памяшканні нашага таварыства: відаць, я з'яўляюся першым з кіраўнікоў грамадскіх чарнобыльскіх арганізацый, які атрымлівае грамату (падкрэсліваю гэта!) менавіта ад дзяржаўнага ведамства. Для мяне гэта сведчанне, што нас пачынаюць прызнаваць.

У чымсьці гэта так і ёсць: нягледзячы на ўсе застарэлыя «рэцыдывы», грамадскія ініцыятывы пастулова набываюць у дзяржструктурах пэўнае прызнанне. Бо відавочна, што чарнобыльскія актывісты — гэта не надакучлівыя просьбіты, а людзі, якія ўмеюць рабіць справу, аказваюць дзяржаве дапамогу ў самых сур'ёзных рэчах.

... У адным з пісьмовых зваротаў самога таварыства «Дзеці ў бядзе» гаворыцца: «Мы, бацькі дзяцей, якія сталі бязвіннымі ахвярамі чарнобыльскай трагедыі, звяртаемся да вас з надзеяй, што словы *міласэрнасць* і *дабрачыннасць* для вас не пусты гук».

Сваёй дзейнасцю гэта якраз і даказалі нямецкія дабрачынцы з асацыяцыі «Сонца — дзецям Чарнобыля» з горада Лангшайт на чале з яе прэзідэнтам Карлай Аўрых, лайнс-клубы Германіі і ўплывовы спонсар гуманітарнага праекта па ўзвядзенню рэабілітацыйнай установы — нямецкая газеты «Рэйн Цайтунг».

— Гэта першая ганаровая грамата, якую я атрымала на беларускай зямлі і якую павязу дамоў у Германію. Можа, у будучым зараблю яшчэ? — пажартавала фрау Аўрых. І ўжо на поўным сур'ёзе дадала: — Нашы грамадскія ініцыятывы, простыя нямецкія грамадзяне трацяць на арганізацыю гуманітарнай дапамогі і свой час, і свае сродкі. Мы вельмі хацелі б, каб нас, нямецкіх дабрачынцаў, пачулі ў беларускім урадзе, каб гуманітарныя грузы, якія мы накіроўваем да вас, не залежваліся на складах, а адразу траплялі да сем'яў чарнобыльцаў.

Увогуле і ў гэтай справе апошнім часам парадку ў нас стала больш. Прыклад жа сумеснай работы па ўзвядзенню новай установы медыцынскай рэабілітацыі хворых дзяцей гаворыць прама і адназначна: народная дыпламатыя, не зважаючы на ўсе палітычныя «моманты», упарта вядзе сваю гуманную справу. Такі вось клімат панаваў у час дэманстрацыі сяброўскага яднання беларускіх і нямецкіх партнёраў. І ці так ужо важна, хто менавіта, паводле народнага павер'я, прыносіць добрае надвор'е: ластаўкі ці тыя ж чайкі, што здаўна тут прыжыліся?

Радуе і тое, што пастулова прабівае сабе дарогу аптымальная для нашых умоў канцэпцыя — развіццё на Беларусі ўласнай аздараўленчай базы. Ёсць жа, як ні сумна, і такія катэгорыі хворых дзяцей, якім далёкія «падарожжы» на лячэнне ці аздараўленне за мяжу проста процілаказаныя. Цяпер жа яны змогуць атрымаць усё неабходнае менавіта тут, у Астрашыцкім Гарадку. Галоўны ўрач санаторыя Галіна Радзівонава выказалася так:

— Прынцып работы новай «медадзінкі» лічу правільным: працэс рэабілітацыі анкалагічна хворых дзяцей павінен праходзіць менавіта пры ўдзеле бацькоў. Зразумела, што ў нейкай ступені гэта даволі неспакойны ўчастак работы, бо ў рэабілітацыі маюць патрэбу і маці хворых дзяцей, у якіх шмат складаных праблем. Усім ім мы і дапаможам, гэта наш урачэбны абавязак.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ,**
**Анатоль КЛЯШЧУК (фота).**

# Сувязі, якія садзейнічаюць інтэграцыі

**Беларуская гандлёва-прамысловая палата, якой споўнілася 45 гадоў, ідзе насустрач свайму III з'езду. Аб дзейнасці палаты і тых прыярытэтных задачах, якія ёй даводзіцца вырашаць, расказвае яе прэзідэнт, кандыдат эканамічных навук Уладзімір ЛЯСУН.**

— Прыярытэты ў дзейнасці палаты вызначаюцца знешнеэканамічнымі прыярытэтамі нашай краіны. Галоўным з іх быў, ёсць і будзе наступны: рознабаковае супрацоўніцтва з нашым стратэгічным партнёрам — Расіяй. Гэта супрацоўніцтва вытрымала выпрабаванне часам. Нашы палаты не спынялі дзелавых кантактаў ніколі, а па меры збліжэння Беларусі і Расіі на міждзяржаўным узроўні міжпалатнае супрацоўніцтва актывізавалася яшчэ больш.

Дзеянні нашых палат, можна сказаць, былі адэкватнымі. На ўзроўні нацыянальных палат падпісана пагадненне аб шырокамаштабным супрацоўніцтве. Галоўнай мэтай яго стала стварэнне адзінай беларуска-расійскай палатнай прасторы і ўсямернае садзейнічанне развіццю інтэграцыйных працэсаў паміж нашымі краінамі.

Створаны Міжпалатны каардынацыйны камітэт, першы, устаноўчы, сход якога адбыўся ў красавіку мінулага года ў Мінску. Пры гэтым цэнтр цяжару ў развіцці інтэграцыйных працэсаў перанесены на рэгіянальны ўзровень. Намі ўжо падпісаны пагадненні аб супрацоўніцтве больш чым з 20 буйнымі тэрытарыяльнымі палатамі Расійскай Федэрацыі, а таксама палатамі Масквы і Санкт-Пецярбурга. У гэту работу ўключаны абласныя аддзяленні нашай палаты, якія садзейнічаюць развіццю прыгранічных гаспадарчых сувязяў.

Сферай прыкладання намаганняў Беларускай Палаты з'яўляецца садзейнічанне суб'ектам гаспадарання нашых краін у наладжванні вытворчых, гандлёвых, навукова-тэхнічных і кадравых сувязяў. Паміж нашымі палатамі наладжаны абмен дзелавой і камерцыйнай інфармацыяй. Заканчваецца стварэнне агульнапалатнай камп'ютэрнай базы даных. На сервер ГПП Расіі ўведзена ў поўным аб'ёме інфармацыя аб усіх членах беларускай палаты. Прычым гэту інфармацыю можа атрымаць не толькі любая рэгіянальная расійская палата, але і замежны карыстальнік. Расійскія суб'екты гаспадарання могуць таксама карыстацца друкаванымі матэрыяламі, якія выдаюцца нашай палатай. Гэта бюлетэнь «Меркурый», бізнес-каталогі, што рассылаюцца ў ГПП расійскіх рэгіёнаў.

У рамках заключаных міжпалатных пагадненняў суб'ектам гаспадарання аказваецца садзейнічанне ў адкрыцці ў нашых краінах гандлёвых прадстаўніцтваў. Гэта вельмі важная паслуга для тых, хто жадае прадаць свой тавар. Жыццё паказала, што немагчыма выйсці на знешні рынак, тым больш замацавацца на ім без адпаведнай гандлёва-збытавой сеткі. Разумеюць гэта і кіраўнікі нашых прадпрыемстваў, якія імкнуцца «займець» у расійскай глыбінцы камерцыйныя структуры па збыту сваёй прадукцыі. Мы запрашаем беларуска-расійскіх таваравытворцаў больш актыўна карыстацца дапамогай палат у адкрыцці тэхнічных цэнтраў, гандлёвых дамоў, фірменных магазінаў, дылерскай сеткі як у сталічных гарадах, так і ў абласных цэнтрах.

У Мінску пад эгідай палат паспяхова прайшоў семінар расійскіх і беларускіх дзелавых людзей, на якім абмяркоўваліся праблемы інтэграцыі прамысловага і фінансавага капіталу, стварэння сумесных фінансава-прамысловых груп. Карысным быў удзел беларускіх спецыялістаў у канферэнцыі па праблеме фарміравання агульнай страхавой прасторы краін СНД, праведзенай Расійскай ГПП.

Нельга не спыніцца на арганізацыі выставачных і кірмашовых мерапрыемстваў. Гэтаму віду дзейнасці, як важнаму фактару развіцця гандлёва-эканамічных сувязяў паміж нашымі краінамі і рэгіёнамі, мы надаём вялікае значэнне. Практычна на ўсіх выставах, якія праводзяцца ў Мінску, дэманструюць сваю прадукцыю расійскія экспаненты. У той жа час беларускія прадпрыемствы ахвотна адгукаюцца на запрашэнні ўдзельнічаць у выстаўках-кірмашах, якія арганізуюцца палатай у розных расійскіх рэгіёнах і гарадах. Гэта не выпадкова. Прадукцыя нашых прадпрыемстваў карыстаецца попытам на расійскім рынку, яна задавальняе пакупніка як па якасці, так і па цане. Лепшым пацвярджэннем сказанага з'яўляюцца вынікі праведзеных выставак у Мурманску (двойчы), Калінінградзе, Краснадары, Ліпецку. У далейшым мы маем намер пашыраць геаграфію свайго ўдзелу ў рэгіянальных выстаўках-кірмашах, прасоўваючы беларускую прадукцыю ўглыб Расіі, у яе цэнтральныя і ўсходнія рэгіёны. Пачалі падрыхтоўку, калі можна так сказаць, да выстаўкі года, якая адбудзецца ў Маскве і будзе прысвечана юбілею Дагавора аб Саюзе Расіі і Беларусі.

Трэба адзначыць, што і расійскі бок актывізаваў свой удзел у інтэграцыйных працэсах. Прыклад таму — выстаўка тавараў з Мурманска, якая прайшла ў Мінску, прыезд у Беларусь прадстаўнічых дэлегацый дзелавых колаў Татарстана, Паўднёвага Урала, Пензенскай вобласці. Арганізавана правядзенне Дзён Ліпецкай вобласці.

Тавараабарот паміж нашымі краінамі ў мінулым годзе ў параўнанні з 1996 годам узрос на 40 працэнтаў, прычым экспарт беларускіх тавараў павялічыўся на 47 працэнтаў, што прывяло да зніжэння адмоўнага гандлёвага сальда. Гэтаму эканамічнаму эфекту спрыяла і дзейнасць нашай палаты.

## СЁННЯ

### Сонца

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.05 | 16.39 | 8.34 |
| Віцебск – | 8.00 | 16.24 | 8.24 |
| Магілёў – | 7.54 | 16.29 | 8.35 |
| Гомель – | 7.45 | 16.32 | 8.47 |
| Гродна – | 8.19 | 16.56 | 8.37 |
| Брэст – | 8.13 | 17.02 | 8.49 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 28 студзеня**
**З 8.34 — 29-ыя месяцавыя суткі.**
**З 20.28 Месяц — у сузор'і Вадалея, да гэтага — у Казярогу.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Ніны, Сцяфана**
**К. Анэлі, Юрыя,**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўночных раёнах невялікі снег. Тэмпература паветра ў Брэсце, Мінску, Магілёве, Гомелі — 0—2 градусы марозу, Гродне, Віцебску — каля нуля.

У наступныя двое сутак: 28-га — па паўночна-заходняй палавіне, 29-га ўначы — па большай частцы тэрыторыі, удзень — па паднёваму ўсходу снег. Тэмпература 28-га ўначы — 3—8, удзень — 0—5; 29-га ўначы — 5—10, па паўночнаму захаду да 15, удзень — 2—7 градусаў ніжэй нуля.

# З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Яшчэ зусім нядаўна, калі грамадства раптоўна перайшло з эпохі перабудовы ў эпоху выжывання, і яму, казалі, ужо не да навукі, мы сапраўды былі сведкамі значнага зніжэння ў моладзі цікавасці да набыцця ведаў, а далейшае равіццё вышэйшай школы здавалася нейкім прывідам. Але, дзякуй Богу, і гэты час мінуў. Стабілізацыя абстаноўкі ў дзяржаве, уздым, што намеціўся ў эканоміцы, дазволілі кіраўніцтву краіны апошнім часам аказваць усямерную падтрымку адукацыі. Пытанне — ці выкарыстаюць гэту магчымасць ВНУ? Прыклад дзейнасці Беларускага дзяржаўнага універсітэта, якому асобнае прадстаўленне непатрэбна, сведчыць, што тут актыўна шукаюць новыя формы і метады работы ў сучасных эканамічных умовах. Можна сцвярджаць, што калектыў універсітэта сапраўды становіцца магутнай стваральнай сілай. Самы час высветліць, што ж на самай справе адбываецца ў вядучай навучальнай установе краіны.

Журналіст «Звязды» Уладзімір АНДРЫЕВІЧ звярнуўся да доктара гістарычных навук, прафесара, першага прарэктара Белдзяржуніверсітэта Пятра БРЫГАДЗІНА.



**Пётр БРЫГАДЗІН,**
**першы прарэктар Белдзяржуніверсітэта, доктар гістарычных навук, прафесар:**

## «НАШЫ ПРЫЯРЫТЭТЫ — СТВАРЭННЕ СУЧАСНАЙ МАТЭРЫЯЛЬНА-ТЭХНІЧНАЙ БАЗЫ І НА ГЭТАЙ АСНОВЕ ПАВЫШЭННЕ ЯКАСЦІ АДУКАЦЫЙНАГА ПРАЦЭСУ»

**— Па прагнозах, колькасць людзей, якія будуць заняты непасрэдна ў вытворчай сферы, з кожным годам будзе змяншацца. Прыводзяцца нават лічбы, што ў 2050 годзе яны будуць складаць прыкладна 10 працэнтаў ад усяго насельніцтва. Астатнія будуць займацца навукай, культурай, адукацыяй, мастацтвам. А гэта, як вядома, патрабуе ад спецыялістаў фундаментальных ведаў, якія дазволяць чалавеку змяняць сферу дзейнасці ў адпаведнасці з яго патрэбнасцямі. Ці гатова ўлічваць падобныя прагнозы наша сучасная вышэйшая школа?**

— Сёння любая нацыянальная вышэйшая школа імкнецца сфарміраваць у выпускнікоў ВНУ ўменне здабываць веды, скажам так, вучыцца ўсё жыццё. Дарэчы, менавіта ў гэтым заключаецца ідэалогія адукацыі XXI стагоддзя, якая распрацавана ЮНЕСКО і падтрымана ўсім сусветным супольніцтвам. Таму задача універсітэта — акрамя вузкай спецыялізацыі даць шырокую фундаментальную адукацыю. Мяркую, што высокаадукаваны, гарманічна развіты інтэлігентны чалавек здолее, пры неабходнасці, хутчэй адаптавацца ў гэтым вірлівым жыцці, асвоіць практычна любую спецыяльнасць.

Вядома ж, кожная краіна мае свае адукацыйныя і культурныя традыцыі, без уліку якіх немагчыма ўдасканаленне ўсёй адукацыйнай сістэмы. Наша вышэйшая школа заўсёды вырашала тыя задачы, якія перад ёю ставіла грамадства, чалавек. Яна пацвердзіла ўсяму свету сваю жыццяздольнасць, сваю самадастатковасць. Яна і цяпер дае магчымасць самарэалізацыі асобы, атрымання новых ведаў, уключэння ў сусветную і нацыянальную культурна-адукацыйную традыцыю. Але час ідзе, мяняецца свет, змяняюцца і патрабаванні да выпускнікоў ВНУ. Таму зараз мы рыхтуем сур'ёзнае рашэнне па ўдасканаленню універсітэцкага навучання. Думаю, што гэта дазволіць змяніць сістэму выкладання, адмовіцца ад устарэлых тэхналогій. Галоўны акцэнт будзе зроблены на пашырэнне самастойнай работы студэнтаў, на свабодны інфармацыйны пошук у шырокіх і даступных інфармацыйных крыніцах.

**— Пётр Іванавіч, на што ў першую чаргу будзе звернута ўвага?**

— Калі мы ставім перад сабой задачу ўвайсці ў адзіную сусветную адукацыйную прастору, то без высокай моўнай падрыхтоўкі гэтага не зробіш. Выпускнік універсітэта павінен дасканала валодаць не толькі беларускай і рускай, але і адной-дзвюма замежнымі мовамі, якія найбольш шырока выкарыстоўваюцца ў міжнародных зносінах.

Па-другое, і гэта зразумела, нельга ўключыцца ў новыя інфармацыйныя тэхналогіі, у новыя формы навучання без прафесіянальнага валодання камп'ютэрам. Таму ставіцца задача, каб кожны студэнт універсітэта быў добрым карыстальнікам ЭВМ.

І трэцяя састаўляючая павышэння эфектыўнасці падрыхтоўкі спецыялістаў — шырокая агульнакультурная, гуманітарная і прафесіянальная падрыхтоўка выпускнікоў. Мяркую, што ў гэтым плане універсітэт мае добрыя напрацоўкі. Але, безумоўна, і тут праблем хапае.

**— Вырашэнне гэтых пытанняў залежыць ад многіх фактараў. Адзін з іх, на мой погляд, самы галоўны — прафесарска-выкладчыцкі састаў. Выкладчыкі універсітэта павінны быць не толькі высакакласнымі спецыялістамі ў сваёй галіне, але і мець шырокія погляды, быць сапраўднымі прафесіяналамі.**

— Сапраўды, гэта важнейшая праблема: кожны выкладчык універсітэта павінен умець працаваць у сучасным рэжыме, на ўзроўні сусветных стандартаў. Таму сёння мы асаблівую ўвагу ўдзяляем стварэнню новых навуковых школ. На тры гады разлічана універсітэцкая праграма «Кадры», якая прадугледжвае вызначэнне найбольш перспектыўных навукоўцаў і стварэнне ім рэжыму найбольшага спрыяння ў выданні манаграфій, падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў, прадастаўленні творчых водпускаў, стажыровак. Максімальную падтрымку, безумоўна, атрымаюць вучоныя, якія гатовы абараніць доктарскія дысертацыі па новых навуковых напрамках.

Гэта і ёсць адказ на выклік часу. І яшчэ адна акалічнасць, якая надае ўпэўненасць, што вышэйшая школа будзе жыць і развівацца, — рост цікавасці да навукі, да адукацыі ў моладзі. Цяпер існуе нават конкурс у аспірантуру, чаго не назіралася яшчэ пяць гадоў таму.

**— Вы казалі, што універсітэт ставіць задачу ўваходжання ў сусветную інфармацыйную сістэму. Але гэта немагчыма без стварэння сучаснай матэрыяльна-тэхнічнай базы...**

— Гэта было прыярытэтным напрамкам работы універсітэта ў мінулым годзе, калі былі вырашаны праблемы з камп'ютэрным забеспячэннем. Нядаўна завяршылі стварэнне выдавецкага цэнтра універсітэта, аснашчанага самым сучасным абсталяваннем. Менавіта тут будзе выдавацца ўся універсітэцкая навуковая і вучэбная літаратура. Наша ідэалогія такая — кожная кафедра універсітэта павінна выдаваць свае падручнікі. Па гэтым паказчыку будзе ацэньвацца і яе работа. Калі кафедра не ў стане падрыхтаваць аўтарскія выданні, то гэта ўжо не універсітэцкі ўзровень. Мяркуем, што такія патрабаванні дазволяць змяніць ідэалогію выкладання. Універсітэцкі педагог павінен быць вучоным, які імкнецца прыцягнуць студэнта да свайго даследчага пошуку. У гэтым годзе наш прыярытэт — павышэнне якасці адукацыйнага працэсу.

Праграма падрыхтоўкі і выдання падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, дарэчы была падтрымана прэзідэнтам краіны, што адзначалася на нядаўняй нарадзе рэктараў. Аляксандр Рыгоравіч падкрэсліў, што будзе створаны спецыяльны фонд, праз які будуць датавацца малатыражныя выданні. Тым самым вырашыцца праблема падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для ўсёй сістэмы вышэйшай школы.

**— Бачна, ва універсітэце амаль што створана нядрэнная матэрыяльна-тэхнічная база, ёсць шмат цікавых перспектыўных напрацовак па ўдасканаленню навучальнага працэсу, заўважана шчырае імкненне юнакоў і дзяўчат, якія вучацца ў БДУ, да набыцця сучасных ведаў. Здаецца, сённяшнія студэнты больш прагматычныя, чым калісьці былі мы. І гэта зразумела: у сённяшнім складаным часе ім цяжэй змагацца за сваё месца ў жыцці. Выйграюць, калі можна сказаць, больш падрыхтаваныя і ўдачлівыя. У Белдзяржуніверсітэце вучыцца заўсёды было прэстыжна, таму і паступаць, мабыць, вельмі складана?**

— Вядома ж, ад якаснага адбору абітурыентаў залежыць многае. Але нейкіх рэвалюцый у гэтым плане мы не збіраемся праводзіць. Традыцыйна конкурс ва універсітэт стабільны і не перавышае трох чалавек на месца. Мы не імкнёмся павялічыць яго, таму што звычайна сярод іх ідуць медалісты, вельмі моцныя выпускнікі каледжаў, ліцэяў. Зразумела, паступаюць самыя лепшыя, але і па-за універсітэцкай аўдыторыяй застаюцца часта не горшыя. Таму мы стараемся, каб працэс адбору будучых студэнтаў ішоў спакойна, дружалюбна. Нельга канчаткова губіць надзею маладых людзей на атрыманне вышэйшай адукацыі.

**— У сувязі з гэтым, ці будуць нейкія наваўвядзенні пры паступленні ў Белдзяржуніверсітэт?**

— Павялічваецца колькасць пісьмовых работ, некаторыя з іх будуць прапанаваны ў выглядзе тэстаў. Гэта сусветная практыка, якая патрабуе ад абітурыентаў не толькі глыбокіх ведаў прадмета, але і кемлівасці, умення думаць. Падобныя сістэмы апытанняў дазволяць больш аб'ектыўна іх ацаніць.

У гэтым годзе Белдзяржуніверсітэт будзе адзінай ВНУ ў краіне, дзе ўступныя экзамены пачнуцца 6 ліпеня і завершацца 18 ліпеня. Праводзіцца такі эксперымент у інтарэсах абітурыентаў, якія пасля не вельмі ўдалай здачы першых двух экзаменаў змогуць забраць дакументы і паспрабаваць свае сілы ў іншых навучальных установах, дзе ўступныя экзамены пачнуцца як звычайна — 16 ліпеня. Мяркуецца, што колькасць абітурыентаў, якія будуць паступаць у Белдзяржуніверсітэт, значна ўзрасце, і прыёмнай камісіі прыйдзецца працаваць у больш напружаным рэжыме. Але гэта дазволіць нам адабраць найбольш таленавітых і падрыхтаваных студэнтаў.

Застаецца ў нас і вельмі гібкая сістэма платнага навучання.

**— Пётр Іванавіч, каб увасобіць у жыццё ўсё задуманае кіраўніцтвам, патрэбны вялікія грошы. Ведаю, што ў Белдзяржуніверсітэце навучыліся зарабляць іх, шукаюць найбольш эфектыўныя шляхі актывізацыі гэтага працэсу.**

— Сапраўды, у нас ёсць шэраг вельмі сур'ёзных камерцыйных праектаў. Гэта не значыць, што мы будзем займацца гандлем ці яшчэ чымсьці, што далёка ад профілю нашай навучальнай установы. Мы будзем зарабляць грошы так, як умеем. Па-першае, за кошт развіцця платных навучальных паслуг. Па-другое, неабходна больш актыўна ўкараняць свае навуковыя распрацоўкі, ставіць на прамысловую серыйную вытворчасць тое, што зроблена ў нашых навуковых лабараторыях. Менавіта з гэтай мэтай мы ствараем дастаткова сур'ёзную вытворчую базу. Напрыклад, вядзецца рэканструкцыя заводаў навукова-вытворчага аб'яднання «Комплекс», які перададзены універсітэту. У планах — стварэнне вытворчасці малатанажнай хіміі, медыкаментаў і лекавых прэпаратаў. Адным словам, мы імкнёмся зарабляць грошы не толькі за кошт продажу інтэлектуальнай уласнасці, але і за кошт продажу непасрэдна матэрыяльнага ўвасаблення гэтай уласнасці. Мы падтрымліваем любыя праекты, накіраваныя на развіццё універсітэта, якія дазволяць максімальна павялічыць пазабюджэтныя фінансавыя паступленні.

**— Абмяркаванню праблем развіцця вышэйшай школы была прысвечана нарада прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі з рэктарамі ВНУ, якая адбылася ў Белдзяржуніверсітэце. Кіраўнік дзяржавы не аднойчы падкрэсліваў, што менавіта ў час такіх сустрэч з прадстаўнікамі розных галін народнай гаспадаркі вызначаецца стратэгія развіцця краіны...**

— Перакананы, пасля нарады ў кіраўнікоў ВНУ з'явілася яшчэ большая ўпэўненасць, што вышэйшая школа не застанецца без падтрымкі дзяржавы. Гэта дае магчымасць будаваць планы на далёкую перспектыву. Самае галоўнае, што вызначана ў асноўным канцэпцыя развіцця вышэйшай адукацыі ў рэспубліцы. Важна, што няма хістанняў, што ёсць устойлівая тэндэнцыя не да рэфарміравання вышэйшай школы, а да яе ўдасканалення. Нягледзячы на складаныя працэсы, якія адбываліся ў грамадстве, у нас захаваны асноўныя напрамкі яе развіцця. Гэты працэс набывае дынамізм дзякуючы важкай фінансавай падтрымцы дзяржавы. Цяпер кожнай ВНУ трэба думаць, якое месца яна зойме ў сістэме адукацыі, як эфектыўна будзе працаваць на патрэбы краіны.

***ПРАБЛЕМА***

# КАЛІ ЗАМІГЦІЦЬ СВЯТЛО Ў АКЕНЦЫ ІНВАЛІДАЎ-СІРОТ?

**«Гэта было пару гадоў таму. Ужо позна ўвечары я прывёз у дзетдом дзяўчынку, іх выхаванку, якая дагэтуль ляжала ў сталічнай бальніцы. Мы праехалі з Жэняй каля паўтысячы кіламетраў, нямала паблудзіўшы ў цемры і памучыўшыся на дарожных калдобінах. Калі на нас накінуўся цэлы натоўп гарлапаніўшых стварэнняў, якія грымелі мыліцамі, палкамі, пратэзамі, таўкліся на маленькіх калясках, мне стала неяк не па сабе. Але калі я ўбачыў, як ужо праз хвіліну мая падапечная пачала міла шчабятаць са сваімі сяброўкамі, то зразумеў, як яна дагэтуль сумавала па дому. Менавіта па дому, бо тут быў яе дом, а гэтая сімпатычная чарада была яе сям'ёй.**

**У Жэні не было абедзьвюх ног, яна страціла іх у дзяцінстве, у чыгуначнай катастрофе. Тады ж загінула яе мама. У той час ёй было 2 гады. З таго часу яна ў дзетдоме...**

**Нам пашанцавала. Адна англійская кампанія зрабіла Жэні цудоўныя пратэзы. За той час, што яна была на востраве, яна стала «зоркай прэсы». Яе ў Вялікабрытаніі ведалі амаль усе, і таму зараз Жэня вучыцца ў англійскім Каралеўскім каледжы. Калі яна скончыць вучобу, хутчэй за ўсё, вернецца назад, на Радзіму. Толькі зараз яшчэ не ведае куды. Людзі, якія ёй там дапамаглі, добра разумеюць сваю адказнасць. Але на іх пытанне «Што будзе далей? — я пакуль не ведаю адказу».**

Гэтую сумную гісторыю паведаміў мне супрэзідэнт нямецкага фонду «Дапамога дзецям Беларусі» Ізяслаў Адліванкін. Спадар Адліванкін займаецца філантрапічнай дзейнасцю ў Беларусі каля 5 гадоў. Ён сам ездзіць па дзіцячых дамах і дапамагае сіротам-інвалідам. Дапамагае як можа, але застаюцца пытанні, на якія пакуль што няма адказаў.

**ДАВЕДКА «ЗВЯЗДЫ»**

**Сёння ў Беларусі зарэгістравана больш як 241 тысяча дзяцей да 14 гадоў, якія маюць недахопы ў разумовым і фізічным развіцці, што складае каля 11 працэнтаў ад агульнай колькасці дзяцей гэтага ўзросту. З іх больш за 12 тысяч дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без бацькоўскай апекі. У спецыялізаваных школах-інтэрнатах для сірот-інвалідаў асобнай градацыі паміж дзецьмі з нармальным інтэлектам і разумова адсталымі не робіцца. Навучанне ідзе па спецыялізаванай праграме, распрацаванай для апошніх, якіх каля 70 працэнтаў. Астатнія 30 працэнтаў таксама вучацца па гэтаму сцэнарыю.**

### Да чаго прыводзіць гэтая практыка?

Па словах Ізяслава Адліванкіна, гэтыя маладыя людзі спачатку знаходзяцца ў няроўных умовах са сваімі равеснікамі і таму ў большасці сваёй не змогуць канкурыраваць з імі, калі ў 18 гадоў прыйдзецца пакінуць сцены дома-інтэрната. У гэтых дзяцей пасля інтэрната застаюцца толькі два шляхі. Ці ісці вучыцца далей і атрымліваць спецыяльнасць і работу, ці апусціць рукі — і тады іх адправяць існаваць (бо назваць гэта жыццём цяжка) у «дамы абслугоўвання пенсіянераў», ці, прасцей кажучы, у дамы састарэлых. Паступаюць вучыцца адзінкі, а астатнія...

У асноўным у дамах інвалідаў агульнага тыпу жывуць больш сталыя людзі. У большасці яны мірна дажываюць свой век. Іх ужо амаль нічога не турбуе і яны жывуць больш мінулым, чым сучасным ці будучыняй. Дамы для састарэлых — гэта своеасаблівы прыгавор для пакрыўджаных жорсткім лёсам маладых людзей. У дамах для састарэлых развіццём былых дзетдомаўцаў ужо ніхто не займаецца. Ужо праз год-два інваліды цалкам страчваюць веру ў будучыню, бо тут яны разумеюць, што ўжо нікому непатрэбны. У той жа час гэтыя людзі могуць вучыцца, развівацца і працаваць. Яны сапраўды так моцна хочуць жыць, што не спыняюцца ні перад чым. ГЭТА прымушае іх пісаць нагамі, маляваць ротам, скалечанымі рукамі іграць на фартэпіяна. На жаль, многія з інвалідаў аб сваіх талентах нават не здагадваюцца. А ў выніку — прыгавор грамадства і дом састарэлых.

Рана ці позна грамадства павінна было выправіць свае памылкі. І вось гэтымі днямі ўпраўленне сацыяльнай абароны Мінгарвыканкама і «Дабрачынны саюз» распрацавалі праект маладзёжнага цэнтра сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў. Згодна з праектам, цэнтр павінен стаць менавіта той установай, дзе будуць праходзіць псіхолага-сацыяльную рэабілітацыю маладыя людзі-інваліды, якія завяршылі навучанне ў дзіцячых дамах-інтэрнатах. Акрамя таго, за асобную плату ў цэнтр будуць прымацца інваліды з забяспечаных сем'яў. Інваліды з сем'яў, якія самі ледзь зводзяць канцы з канцамі, будуць навучацца тут за дзяржаўны кошт. У гэты цэнтр будуць прымаць толькі тых інвалідаў, якія маюць здольнасць да далейшай вучобы, ва ўзросце ад 16 да 35 гадоў. Цэнтр павінен перайсці ў распараджэнне ўпраўлення сацабароны Мінгарвыканкама. Ён будзе забяспечвацца за кошт сродкаў, якія прадугледжаны на сацыяльную абарону ў бюджэце горада, а таксама дадатковых сродкаў ад «Дабрачыннага саюза», прыватных ахвяраванняў, ад сваёй гаспадарчай дзейнасці і інш.

Па меркаванню распрацоўшчыкаў праекта, гэта ўстанова павінна займаць асобны будынак, прыстасаваны для жыцця і вучобы інвалідаў. Будынак павінен выдзеліць горад. Рэканструкцыю гэтага будынка, па папярэдняй дамоўленасці, згадзіўся зрабіць «Дабрачынны саюз». У гэты саюз уваходзяць два дабрачынныя таварыствы з Германіі: «Рука дапамогі з Хох-Хайма» і «Дапамога дзецям Беларусі», а таксама Лайнс-клуб з Хох-Хайма (прэзідэнт клуба спадар Хорст Рыдэль) і Лайнс-клуб Мінска пад кіраўніцтвам мастацкага кіраўніка, рэжысёра Рускага тэатра Барыса Луцэнкі. Паводле прыкладных падлікаў, на рэканструкцыю будынка і куплю спецыяльнага абсталявання спатрэбіцца каля 100 тысяч долараў ЗША. Здаецца, менавіта такія выдаткі згадзіўся ўзяць на сябе нямецкі бок па рэалізацыі гэтага праекта.

Здаецца, усё добра. Праблема зрушана з мёртвай кропкі. Але, на жаль, і гэта ўжо робіцца звычкай, калі нам прапануюць дапамогу, мы самі сабе ўстаўляем палкі ў колы. Высвятляецца, што для таго, каб будынак быў перададзены горадам на баланс Мінсацабароны, гэтаму ведамству трэба мець грошы на яго рэканструкцыю. З другога боку, немцы слушна не разумеюць, як можна выдзяляць грошы на рэканструкцыю неіснуючага будынка. А ў выніку — праект цэнтра можа так і застацца на паперы.

Не, мне здаецца, што гэтага не адбудзецца. Бо ў чыноўніка, які павінен прыняць станоўчае рашэнне па перадачы будынка на баланс Мінсаўабароны, таксама ёсць сэрца. І я не веру, што яно зусім абыякавае да лёсу інвалідаў, якія ў адваротным выпадку будуць асуджаны на пажыццёвую безвыходнасць.

Кіраўніцтва камісіі па сацыяльных пытаннях Савета Рэспублікі таксама спадзяецца, што штучныя праблемы на гэтым шляху будуць вырашаны.

**Сяргей КУРКАЧ.**



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

***НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ ТАМУ Ў БЕЛАРУСІ, як, між іншым, і ва ўсіх астатніх краінах былога СССР, адбыўся рэзкі ўсплёск злачынстваў, звязаных з падробкай і збытам грашовых знакаў. Праз нашу краіну міжнародныя групоўкі фальшываманетчыкаў імкнуліся, і небеспаспяхова, правезці з Польшчы і дзяржаў Балтыі ў Расію цэлыя партыі падробленых расійскіх рублёў, а таксама амерыканскіх долараў. Частка гэтых несапраўдных грошай асядала і ў Беларусі, «усплываючы» потым у руках нашых падманутых суграмадзян. Як потым выявілася, у Варшаве дзейнічаў цэлы «фальшываманетны двор» па выпуску падробленых расійскіх рублёў. З дапамогай беларускіх спецыялістаў па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю варшаўская падпольная друкарня была рассакрэчана. Наплыў падробленых грошай зменшыўся. Аднак цалкам пазбавіцца ад фальшываманетнай навалы Беларусі пакуль не ўдалося. Небяспека «інтэрвенцыі» падробленых грошай застаецца.***

***У прыватнасці, нядаўна Нацыянальны банк краіны распаўсюдзіў інфармацыю, у якой папярэдзіў аб магчымым масавым з'яўленні ў Беларусі фальшывых расійскіх грошай узору 1995 года. Па звестках банка, гэтыя фальшыўкі будуць выкарыстоўвацца падчас абменных аперацый у рамках дэнамінацыі расійскай валюты. Мяркуецца, што для гэтых мэтаў махляры будуць прымяняць спецыяльныя «лялькі» ў пластыкавай банкаўскай упакоўцы. У кожнай з такіх «лялек», якая будзе складацца з тысячы купюр, з абодвух бакоў пакунка звычайна закладваюцца па сто сапраўдных купюр.***

***Пракаменціраваць паведамленне Нацбанка, а таксама сітуацыю на фронце барацьбы з фальшываманетчыкамі карэспандэнт «Звязды» папрасіў старшага оперупаўнаважанага па асабліва важных справах Упраўлення па эканамічнай злачыннасці МУС Беларусі Віталя САЛАЎЯ.***

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

# ФАЛЬШЫВАМАНЕТНЫ БУМ КАНУЎ У ЛЕТУ

**Пасля ўступлення ў сілу прэзідэнцкага дэкрэта №1 ад 5 лютага 1997 года «Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютна-абменных аперацый» міліцыя змагла дабіцца значных поспехаў не толькі ў барацьбе з валютчыкамі, але і з фальшываманетчыкамі.**

**— Віталь Віктаравіч, няўжо пасля разгрому польскага «фальшываманетнага двара» ў Беларусь з-за мяжы зноў хлынула вялікая колькасць падробленых расійскіх рублёў?**

— На шчасце, фактаў масавага збыту падробленых расійскіх рублёў у нашай краіне пакуль не назіраецца.

**— У такім разе як разумець паведамленне Нацыянальнага банка? Ці, можа, вы не валодаеце той інфармацыяй, якая ёсць у банку?**

— Інфармацыяй мы валодаем у поўным аб'ёме, што дае нам магчымасць не толькі трымаць пад пільным кантролем сітуацыю, але і пралічваць наперад хады фальшываманетчыкаў. Прааналізаваўшы паводзіны фальшываманетчыкаў падчас грашовых рэформаў, мы прыйшлі да высновы, што і пры правядзенні дэнамінацыі расійскага рубля могуць з'явіцца памянёныя вышэй «лялькі». Таму мы паінфармавалі аб гэтым Нацыянальны і камерцыйныя банкі краіны, каб супрацоўнікі банкаўскіх устаноў былі вельмі пільнымі і правяралі кожны пакунак расійскіх грошай.

**— Значыць, падстаў для трывогі пакуль няма?**

— Небяспека трапіць на вуду фальшываманетчыкаў існуе заўсёды. Але зараз мы навучыліся даволі эфектыўна змагацца з такімі злачынствамі, колькасць якіх, дарэчы, апошнім часам зменшылася.

Напрыклад, летась у Беларусі было зарэгістравана 1900 фактаў збыту падробленых грошай, што на 285 менш, чым у 1996 годзе. Разам з тым летась намі раскрыты 263 падобныя злачынствы, што на 30 больш, чым у 1996 годзе. Магчыма, камусьці здасца, што гэта не вельмі значнае дасягненне. Але хачу адзначыць, што раскрыццё фальшываманетчыка — даволі працаёмкая і складаная справа, бо вытворчасцю і збытам падробленых грошай займаюцца, як правіла, добра арганізаваныя міжнародныя групоўкі. На тэрыторыі Беларусі фальшывыя грошы звычайна не вырабляюцца, іх вязуць да нас з Прыбалтыкі і Санкт-Пецярбурга. Там, відавочна, больш спрыяльныя ўмовы для дзейнасці фальшываманетчыкаў. У нас жа высакаякаснае друкарскае абсталяванне знаходзіцца пад пільным кантролем.

**— Фальшывыя грошы якіх краін найчасцей выяўляліся ў мінулым годзе ў Беларусі?**

— Беларускія збытчыкі падробленых грошай па-ранейшаму аддаюць перавагу амерыканскім доларам, расійскім рублям і нямецкім маркам.

Так, летась намі было канфіскавана 2848 падробленых купюр, з якіх 2012 — амерыканскія долары, 488 — расійскія рублі, 241 — нямецкія маркі.

**— Дзе звычайна збываюцца падробленыя грошы?**

— Як правіла, фальшывымі грашыма махляры імкнуцца расплаціцца пры набыцці дарагіх рэчаў на рынках ці па рэкламных аб'явах. Зусім нядаўна на вуду фальшываманетчыкаў пры продажы легкавога аўтамабіля трапіў нават адзін беларускі прадпрымальнік, які чамусьці паленаваўся праверыць сапраўднасць 36 стодоларавых купюр. А найчасцей ахвярамі фальшываманетчыкаў становяцца і без таго абяздоленыя пенсіянеры.

**— Віталь Віктаравіч, вы адзначылі, што апошнім часам фальшываманецтва ў нашай краіне ідзе на спад. З чым гэта звязана?**

— Тут далі немалы плён і прафілактычныя мерапрыемствы, і павышэнне прафесіянальных ведаў нашых супрацоўнікаў. Але найбольшую дапамогу нам аказаў прэзідэнцкі дэкрэт №1 ад 5 лютага 1997 года «Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютна-абменных аперацый». Рэгулярна праводзімыя спецыяльныя мерапрыемствы па выкананню гэтага дэкрэта карэнным чынам змянілі сітуацыю на «чорным» валютным рынку, дзе, між іншым, спрабавалі, і небеспаспяхова, лавіць рыбу ў каламутнай вадзе і фальшываманетчыкі.

**— Калі ўжо зайшла размова пра барацьбу з валютчыкамі, раскажыце, калі ласка, аб яе выніках.**

— За мінулы год за парушэнне правілаў валютна-абменных аперацый намі прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці больш за 7490 чалавек, з якіх 2736 атрымалі пакаранне ў выглядзе адміністрацыйнага арышту, астатнія былі аштрафаваны на агульную суму 48 мільярдаў 684 мільёны рублёў. У асоб, якія прыцягваліся да адказнасці за незаконныя валютныя аперацыі, канфіскавана 18 мільярдаў 140 мільёнаў беларускіх рублёў, 1 мільярд 984 мільёны расійскіх рублёў, 685 тысяч доляраў ЗША, 102 тысячы нямецкіх марак.

**— Лічбы даволі унушальныя. Але хто за імі хаваецца? Існуе меркаванне, што ахвярамі прэзідэнцкага дэкрэта №1 становяцца зусім не валютчыкі, а тыя ж пенсіянеры, якія імкнуцца выратаваць ад інфляцыі свае невялікія зберажэнні. Гэтыя людзі проста вымушаны звяртацца да паслуг вулічных мянялаў, паколькі ў абменных пунктах набыць валюту і зараз, пасля лібералізацыі курса, вельмі складана, а летась наогул фактычна не было такой магчымасці.**

— Безумоўна, сярод парушальнікаў прэзідэнцкага дэкрэта ёсць розныя катэгорыі людзей. Магчыма, хтосьці пайшоў на парушэнне правілаў абменных аперацый, як кажуць, не ад добрага жыцця. Але ж закон ёсць закон. Мы абавязаны яго выконваць.

Разам з тым я магу прывесці факты, калі нам удавалася прыцягнуць да адказнасці, скажам так, прафесіянальных валютчыкаў. Напрыклад, у Гомелі, пры спробе абмену валюты, у машыне быў затрыманы грамадзянін, у якога канфіскавана 93 тысячы доляраў ЗША і 70 тысяч нямецкіх марак.

**— Ці праўда, што міліцыянеры падчас мерапрыемстваў па выкананню дэкрэта №1 пад выглядам валютчыкаў дзяжураць ля абменных пунктаў і затрымліваюць даверлівых кліентаў, якія спрабуюць абмяняць у іх грошы? Прынамсі, адзін такі факт упамінаўся нядаўна ў беларускай прэсе.**

— Такія правакацыйныя метады барацьбы з незаконнымі валютнымі аперацыямі не павінны практыкавацца. Гэта забаронена законам. Мне падобныя факты невядомыя. Калі ж з кімсьці такое здаралася, то кожны грамадзянін нашай дзяржавы можа абараніць свае правы ў судовай інстанцыі.

Дарэчы, бываюць выпадкі, калі грамадзяне, прыцягнутыя да адказнасці за незаконныя валютныя аперацыі, спрабавалі аспрэчваць рашэнні начальнікаў райаддзелаў міліцыі аб канфіскацыі пэўных сум валюты ў судах. Але, як правіла, гэтыя спробы марныя, бо факты парушэння дэкрэта № 1 у такіх выпадках відавочныя.

Таму хацеў бы параіць грамадзянам усё ж не карыстацца паслугамі валютчыкаў, а звяртацца ў абменныя пункты. Законны спосаб абмену валют, часам не вельмі зручны і выгадны, але больш надзейны.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

## ДМК і ДАІ маюць намер забараніць увоз у Расію старых патрыманых аўтамабіляў

**Дзяржаўны мытны камітэт (ДМК) РФ і Дзяржаўная аўтаінспекцыя працуюць над тым, каб цалкам забараніць увоз у Расію патрыманых аўтамабіляў, якія знаходзяцца ў аварыйным стане. Пра гэта паведаміў старшыні ДМК РФ Анатоль Круглоў.**

Паводле папярэдніх даных, перш за ўсё мяркуецца забараніць увоз у РФ іншамарак, выробленых 10—15 гадоў таму. А. Круглоў таксама даў зразумець, што ў бліжэйшы час не варта чакаць зніжэння імпартных пошлін на ўвозімыя аўтамабілі.

Кіраўнік ДМК растлумачыў гэта тым, што ў Расіі паступова пачынае разгортвацца ўласная аўтамабільная вытворчасць.

У гэтай сувязі, па словах А. Круглова, мытня павінна зрабіць усё для таго, каб заходнім вытворцам аўтамабіляў было выгадна выпускаць іх у РФ, а не ўвозіць з-за мяжы.

**Інтэрфакс.**

## Сталічныя «герастраты» аблюбавалі «Вясёлку»

**Не шанцуе сталічнаму кінатэатру «Вясёлка» — нядаўна над драўляным будынкам, які размешчаны ў парку Чэлюскінцаў, зноў узняўся слуп чорнага дыму.**

Па трывозе былі падняты пажарныя падраздзяленні Першамайскага і Савецкага раёнаў. «Рыцарам агню» ўдалося выратаваць каркас «Вясёлкі», унутры ж кінатэатр выгараў амаль цалкам, патрэскаўся дах. Дарэчы, кінатэатрам драўляны будынак у парку Чэлюскінцаў назваць можна толькі з вялікай нацяжкай — вось ужо амаль пяць гадоў тут не праводзілася ніякіх кінасеансаў.

Аб гэтым карэспандэнту «Звязды» паведаміў генеральны дырэктар аб'яднання «Кінавідэапракат» Васіль Коктыш. Будынак «Вясёлкі» з-за амаль стопрацэнтнага зносу даўно падлягаў разбурэнню, аднак прынцыпова гэта пытанне дасюль не вырашана (плануецца, што дэмантаж кінатэатра адбудзецца вясной). А так памяшканні доўгі час пуставалі і таму іх «аблюбавалі» розныя «цёмныя асобы» з мэтай знайсці прытулак, каб арганізаваць «адпачынак». «Вясёлку» ўвогуле ніхто не ахоўваў — там можна было, напэўна, нават кавалак сала на вогнішчы засмажыць.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# ГРАМІЛЫ

Раніцай 28 снежня 1994 года ў адной з кватэр дома па вуліцы Байкальскай беларускай сталіцы пачуўся званок. У дзвярное вочка гаспадар кватэры ўбачыў маладога мужчыну, апранутага ў форму работніка міліцыі. Здзівіўшыся такому ранняму візіту прадстаўніка ўлады, гаспадар, тым не менш, адчыніў дзверы. Услед за міліцыянерам у кватэру ўвайшлі яшчэ двое мужчын, але ў цывільным. Мужчына ў міліцэйскай форме замест прад'яўлення службовага пасведчання і растлумачэння мэты візіту дастаў з кішэні пісталет і накіраваў яго на перапалоханых мужа і жонку, потым загадаў легчы на падлогу. Двое іншых звязалі па руках і нагах жыхароў кватэры і пачалі патрабаваць ад іх указаць месца, дзе ляжыць... марскі корцік. Пасля таго, як гаспадар адмовіўся выканаць іх патрабаванне, пачалі выносіць з кватэры ўсё, што трапляла пад руку: відэаплэер, магнітолу, адзенне, ювелірныя вырабы, грошы, дакументы — усяго на суму 19 мільёнаў 578 тысяч рублёў у цэнах тых гадоў.

Злачынцы былі затрыманы ўвосень 1996 года. Імі аказаліся раней судзімыя Валерый Зайцаў, Яўген Ліпянкоў, Сяргей Лосеў, Дзмітрый Габееў. Затрымалі таксама Сяргея Шведа, які раней да суда не прыцягваўся. Аб'яднаўшыся ў канцы 1994 года ў арганізаваную злачынную групу, гэтыя «джэнтльмены ўдачы» з дапамогай былых работнікаў міліцыі раздабылі форменнае адзенне, якое, на іх думку, павінна было аблегчыць ажыццяўленне іх злачынных задум. Набылі газавую зброю, наручнікі, радыёстанцыі і выйшлі на сцежку разбою.

Першы візіт рабаўнікі нанеслі на кватэру па вуліцы Байкальскай, аб чым упаміналася вышэй. Месца ўказаў Габееў, які незадоўга да гэтага быў у кватэры пацярпелых па аб'яве аб продажы тэлевізара, ведаў абстаноўку, а таксама бачыў у кватэры марскі корцік. Менавіта корцікам і вырашылі завалодаць нападаўшыя, палічыўшы яго за старадаўнюю рэліквію. У форму работніка міліцыі апрануўся Зайцаў. У ролі «панятых» выступалі Лосеў і Ліпянкоў. Габееў застаўся на вуліцы і забяспечваў прыкрыццё сатаварышаў.

7 сакавіка 1995 года муж і жонка Паўлавы, якія пражываюць у мікрараёне «Уручча», былі да смерці перапалоханыя паведамленнем прыбыўшых «міліцыянераў» Ліпянкова і Зайцава аб нібыта затрыманні іхняга сына за захоўванне і ўжыванне наркатычных сродкаў. Лосеў, які быў у цывільным, назваўся «следчым» і сеў за стол «пісаць пратакол». Але не паспелі муж і жонка адказаць на першыя фармальныя пытанні, як былі ўложаны на падлогу ўдарамі кулакоў і гумавай дубінкі. Рукі абоіх былі звязаны вяроўкай і абрыўкамі майкі. Пасля візіту «міліцыянераў» з кватэры зніклі валюта, грошы, ювелірныя вырабы, адзенне на 39 мільёнаў 138 тысяч рублёў.

І так дзень за днём, месяц за месяцам. Усяго грамілы ўчынілі 14 разбойных нападаў, 7 кватэрных крадзяжоў і шэраг іншых злачынстваў. Нанесеныя імі страты склалі 1 мільярд 167 мільёнаў 654 тысячы рублёў. А потым быў суд. Злачынцы панеслі заслужанае пакаранне: яны асуджаны на тэрмін ад 8 да 11 гадоў і будуць адбываць пакаранне ў папраўча-працоўных калоніях строгага і ўзмоцненага рэжыму.

**Мікалай КРАСНЕЎСКІ,**
**грамадскі карэспандэнт «Звязды»,**
**Ігар ТУМАШ,**
**намеснік начальніка СУ ГУУС Мінгарвыканкома.**

***АД АЎТАРАЎ.** Па-зразумелых прычынах прозвішчы ахвяр бандыцкіх нападаў зменены.*

*ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ*

## АПОШНІЯ НАВІНЫ АБ ПЕНСІЯХ І ЛЬГОТАХ

***Пенсійнае заканадаўства часта падвяргаецца змяненням, таму ў нашай пошце шмат пісьмаў з просьбай дапамагчы разабрацца ў законе. З пытаннямі чытачоў мы звярнуліся да намесніка начальніка ўпраўлення пенсій і дапамог Мінсацабароны Людмілы МАРЧАНКА.***

**— Чаму цяпер у працоўны стаж для прызначэння пенсіі не ўключаецца час догляду дзіцяці да спаўнення яму 3 гадоў? У 50—60-я гады нават размовы не было аб нейкіх днях без утрымання пры нараджэнні дзіцяці. Гэта несправядліва ў адносінах да маці, якія ў той час разрываліся паміж работай і домам.**

— Пенсійнае заканадаўства прадугледжвае ўключэнне ў стаж работы для прызначэння пенсіі час догляду непрацуючай маці малалетніх дзяцей, але не больш, чым да дасягнення кожным дзіцем узросту 3 гадоў, у межах 9 гадоў увогуле. Жанчыне, якая ў перыяд догляду малалетніх дзяцей працавала, у працоўны стаж залічваецца перыяд работы. Мяркуецца, што ў будучым пенсійнае забеспячэнне будзе развівацца па шляху пенсійнага страхавання і памер пенсіі будзе залежаць ад працягласці і сумы ўплачаных страхавых узносаў у пенсійны фонд. Пры гэтым мяркуем, што перыяды дзейнасці, на працягу якіх адлічэнні ў пенсійны фонд не рабіліся (догляд малалетніх дзяцей, час вучобы і інш.) не будуць аказваць уплыву на памер пенсіі.

**— Раней пенсійнае заканадаўства прадугледжвала ўстанаўленне 20-працэнтнай надбаўкі да пенсіі за няспынны стаж работы на адным прадпрыемстве. Дзеючае пенсійнае заканадаўства такой нормы не змяшчае. Чаму?**

— Дзеючае пенсійнае заканадаўства прадугледжвае залежнасць памераў пенсій ад колькасці гадоў, на працягу якіх работнік падлягаў дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню або ўплачваў страхавыя ўзносы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Устанаўленне залежнасці памеру пенсіі ад няспыннага стажу работы на адным прадпрыемстве не адпавядае рэальным эканамічным умовам, калі з-за прастояў і скарачэння колькасці работнікаў на прадпрыемствах, росту беспрацоўя людзі ў пошуках крыніц існавання вымушаны выконваць любую работу, якая прыносіць даход. Мяркуем, што працяглая няспынная работа на адным прадпрыемстве павінна стымулявацца самім прадпрыемствам шляхам устанаўлення даплат да заработнай платы, да дзяржаўных пенсій.

**— За невялікім выключэннем было модным, што жонка ваеннаслужачага не павінна працаваць. Як гэтым жанчынам налічваецца стаж для прызначэння пенсіі?**

— Закон аб пенсійным забеспячэнні ўлічвае цяжкасці з уладкаваннем на работу жанчын — жонак ваеннаслужачых. Перыяд пражывання жонак асоб афіцэрскага саставу, прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых звыштэрміновай службы з мужамі ў мясцовасцях, дзе адсутнічала магчымасць іх працаўладкавання, залічваецца ў працоўны стаж, які дае права на пенсію, але не больш як 10 гадоў увогуле. Як вынікае з гэтай нормы, мае месца не проста нежаданне працаваць, а немагчымасць працаўладкавання. Для павелічэння памеру пенсіі за кожны поўны год работы звыш патрабуемага стажу (20 гадоў) гэты перыяд не ўлічваецца.

**Матэрыял падрыхтавала Наталля ДОЎНАР.**

Андрэй ВАЗНЯСЕНСКІ

## БУСЛЫ

*Віктару Жаку*

*Гняздо — каронай над бярозаю.*
*Над хутарам счарнелым стылі*
*з буслісай бусел, нібы ў роздуме*
*бяздумна-сумна й артыстычна.*

*Гняздо над заглушшу прышпілена,*
*як указанне Віфлеема,*
*дзве шыі слодычу знясілены.*
*Так дзве змяі над чашай ззвілены*
*у медыцынскую эмблему.*

*Забіла забыццё ўладарна*
*гняздоўе ўнізе гаспадарскае.*
*Зруб згніў. Без працы бусел госціць.*
*Як адарыць міласцю здарыцца,*
*дык трэба адарыць — кагосьці.*

*... Аднойчы неяк спадарожніца*
*з дарогі ў дождж глухі саб'ецца,*
*ад ласкі неба, асцярожнае,*
*пад сэрцам дзіва ў ёй заб'ецца.*

*Сваё абмацваючы цела —*
*нібы запалкі ўсё шукае—*
*світальна скажа: «Заляцела,*
*Вам прынясу, буслы, сынка я».*

**Пераклад**
**Рыгора БАРАДУЛІНА.**



**На здымку: Андрэй ВАЗНЯСЕНСКІ, Рыгор БАРАДУЛІН, Васіль БЫКАЎ, Віктар ЖАК.** ***1994 год.***
**Фота Юрыя ІВАНОВА.**

# Віктар Жак свята верыць, што мастацтва вечнае, а жыццё кароткае...

В А ЎСІМ СВЕЦЕ, які часцей за ўсё ставяць нам, цёмным, у прыклад, паэзія звычайна з'яўлялася і з'яўляецца прадуктам «вытанчаным».Тыражы вершаваных кніжак, выдадзеных без асаблівай аўтарскай падтрымкі, за кошт саміх выдаўцоў, і ў краінах са шматмільённым народанасельніцтвам — роўныя тысячы, у лепшым выпадку — некалькім тысячам асобнікаў. Мы ўжо, лічы, наблізіліся да гэтай сітуацыі. А быў жа час, — кажу гэта без скрухі, адно дзеля канстатацыі, калі паэзія ў эсэсэсэраўскай прасторы выйшла на вуліцы, плошчы. Чытач па-новаму, неяк па-маладому адгукнуўшыся на Пушкіна, і сучаснікаў пачуў. А як было не пачуць — грымнулі вершы-з'явы, паэмы-з'явы. Вазнясенскі, Еўтушэнка, Ахмадуліна... За імі шарэнгамі стаялі слабейшыя. Мо нават не па паэтычнай тэхніцы, калі можна так сказаць. А хутчэй — слабейшыя па паэтычнаму светабачанню, па празорлівасці. Пісьменнікаў, паэтаў развелося гэтулькі, што... Што нават анекдот з'явіўся. (Памятаеце: «... Чукча не чытацель, а чукча пісацель...»). І тым не меней мастацкую літаратуру, сучасную паэзію набывалі, чыталі.

Цяжэй спажыўцу-духоўніку даводзілася з кніжкамі ўсё тых жа паэтаў-першарадаўцаў. І хаця яны выдаваліся тыражамі досыць вялікімі, зборнікі Вазнясенскага, Еўтушэнкі хіба што зрэдку траплялiся ў букіністычных кнігарнях. Аматары сапраўднай паэзіі не адчайваліся. Акрамя шматтыражных тады «Нового мира», «Юности» (хаця і на іх часам падпісацца можна было толькі дзякуючы падтрымцы прафкомаў і парткомаў), шукалі іншыя шляхі, каб не размінуцца з новымі адкрыццямі маладых паэтаў-празарліўцаў. Выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута (а сёння — загадчык кафедры педагагічных дысцыплін Беларускай політэхнічнай акадэміі) Віктар Жак вынайшаў свой арыгінальны шлях — ён стаў, калі гаварыць сучаснай мовай, прадзюсерам паэтычных канцэртаў. Так, канцэртаў. Бо ўсе, мастакі, сапраўдныя мастакі, — і слова таксама, — падараваныя ўсявышнім артысты. Не для нашай уцехі. А для працы душы.

У Жака на сцяне рабочага кабінета — лацінскае выслоўе: «Мастацтва вечнае, а жыццё кароткае». Віктар перафразаваў яго яшчэ і так: «... Але і жыццё можа быць вечным, калі яно мастацтва».

— Я мяркую, — гаворыць Жак, — для сапраўднага, для будучыні захоўваецца толькі тое, што па-мастацку асэнсавана, апісана... Усё астатняе перагтвараецца ў пыл, у забыццё. Яшчэ мой бацька, вечная яму памяць, просты селянін, меў мудрую галаву, даказаў мне, што інтэлігентнасць не даецца з дыпломам аб вышэйшай адукацыі. Хутчэй, інтэлігентнасць выяўляецца ў нашым стаўленні да навакольнага свету.

Адкрыўшы для сябе Жака, пачынаю разумець, што самая галоўная рыса інтэлігентнасці — цярпімасць, такт ва ўспрыманні, іншага, палярнага табе. Чалавека. Ідзі. Калі не гвалт, калі не здзек над табою, то і ты спакойна сузірай процілеглы бок. Максімалістамі, непрымірымымі мы ўжо былі. Неаднойчы. Нават вялі за гэта баі і бойкі.

Уявіце сабе, яшчэ ў 1960-я Вазнясенскі, Еўтушэнка вядомыя свету паэты. Андрэй Вазнясенскі сябруе (тады!) з Жаклін Кенэдзі. Прыязджае паэт у Мінск, а ніхто з нашых афіцыйных начальнікаў і пальцам не варушыць. Як быццам Жак ладзіць сустрэчу з дысідэнтам. Атрымліваецца, што дысідэнтаў нараджалі наўмысна, не бачачы вялікасць мастацкага слова, вялікасць яго стваральніка.

З 1969-га, з наладжанай Жакам імпрэзы Вазнясенскага ў Мінску, для многіх пачалася новая хваля жыцця. Разам пачалі збірацца людзі, для якіх паэзія тады была ўсім. І, канешне ж, найбольш нават не проста чужой літаратуршчынай, а ўласным самавыяўленнем. Так, чытаць сапраўдную паэзію, слухаць яе, гаварыць пра яе і быць самавыяўленнем.

Заўважыўшы побач з Вазнясенскім Жака, да яго пацягнуліся людзі. З тых, канца шасцідзесятых гадоў — пачатку сямідзесятых, — сапраўднае, сталае сяброўства Віктара з паэтам Рыгорам Барадуліным, Яўгенам Будзінасам, Васілём Быкавым... Дзень пры дні кола знаёмстваў шырылася. І Жак прагнуў людзей. Сапраўдных. Здольных думаць. Кіравала ў арганізацыі многіх сустрэч жаданне паказаць студэнтам людзей дастойных. Перапоўненая актавая зала політэхнічнага інстытута сталася прасторай, якая выпраменьвала асаблівую энергетыку. Якраз такую, што спрыяла трываласці асобы, фарміраванню духоўнай аўры, якую ўжо і разбурыць было не так проста.

Часам сістэма выразна нагадвала аб сабе. Доўга Жак не мог знайсці ў Мінску залы для выступлення Бэлы Ахмадулінай. А паэтка ўжо вось-вось павінна была прыехаць у Мінск. Цягнік на падыходзе. І сорамна за Мінск, за браткоў-беларусаў, а зрабіць, здаецца, нічога немагчыма. Выйсце знайшлося. Ужо роўнай зале політэхнічнага інстытута ў Беларусі стала іншая зала — Палаца культуры калгаса «Советская Белоруссия» знакамітага Уладзіміра Лявонцьевіча Бядулі. Туды і паехаў ужо Яўген Будзінас, сустрэўшы ў Мінску, Бэлу Ахмадуліну. Магчыма, адказ для пільных ідэолагаў падрыхтаваны быў папярэдне, з пацісканнем плячыма: а што мы ў калгасе, ні пра якія «Метраполі» — памятаеце, былі такі альманах з удзелам Бэлы Ахмадулінай? — не чулі. Мы ж доім, сеем, вырошчваем мяса, якая тут паэзія? А паэзія, між іншым, была зразумета. Вярнуўшыся ад Бядулі, захопленая Бэла Ахмадуліна дзівілася, з якой цішынёю слухала яе зала. Праўда, адчуўшы, што вяскоўцы не ўсё зразумеюць, паэтка чытала і Анну Ахматаву, і Марыну Цвятаеву. Значыць, вершам знойдзеная праўда патрэбна людзям?.. Нават простым людзям?..

Патрэбная і зараз. Нядаўна Жак, займеўшы падтрымку ў асобе прыватных гаспадароў, паспрабаваў сябе як кнігавыдавец. За восем месяцаў у Мінску была зроблена кніга вершаў Андрэя Вазнясенскага «Не отрекусь». Адзін з найбольш поўных сяроді выдадзеных за апошнія гады зборнікаў паэта. Некаторыя вершы надрукаваныя ўпершыню. У кнізе «Не отрекусь» ёсць верш пра інтэлігенцыю.

*Есть русская интелигенция*
*Вы думали — нет? Есть.*
*Не масса индифферентная,*
*А совесть страны и честь.*

*Есть в Рихтере и Аверинцеве*
*земских врачей черты —*
*поскольку интеллигенция,*
*поскольку они честны.*

*«Нет пороков в своем отечестве»*
*Не уважаю лесть.*
*Есть пороки в моем отечестве,*
*зато и пророки есть.*

Тыраж «Не отрекусь», выдадзенай летась, — 10 тысяч асобнікаў. У Мінску кнігі гэтай ужо не знайсці. У Маскве, мусіць, таксама. Дарэчы, прэзентацыя «Не отрекусь» з удзелам Вазнясенскага ладзілася ў Мінску. У Рускім тэатры.

Пераканаы, людзей, артыстаў мастацтва слова, адкрытых і вынайдзеных ім душы Жак проста любіць. Ён абагаўляе іх. І гэта — не псеўдагачнае стварэнне куміраў. Такая любоў — жаданне адкрыць вочы іншым. На Вазнясенскага, на Андрэя Дзяменцьева, на Бэлу Ахмадуліну, на Рыгора Барадуліна, на Васіля Быкава... Жак шчыра, прастадушна дзівіцца, як можна лепшае, лепшых не заўважаць і зневажаць. Жак дзівіцца, што пра Беларусь мяркуюць па Корбут, а яна ў ЗША. Нашу краіну ў многім ведаюць з-за Быкава, а яго кнігу збіраюцца выдаць у прыватным выдавецтве... Жак многаму дзівіцца. І застаецца чалавекам захопленым, апантаным, улюбёным у паэзію.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*36,6°*

# Рэанімацыя: 50 працэнтаў надзеі

**Штогод каля сотні беларусаў становяцца пацыентамі Рэспубліканскага цэнтра інтэнсіўнай тэрапіі вострай ныркачай недастатковасці. Адказ на пытанне блізкіх аб стане хворага звычайна напачатку кароткі: або — або...**

Пяцьдзесят працэнтаў надзеі — шмат. Але пяцьдзесят працэнтаў трывогі, болю, адчаю — яшчэ больш. На жаль, для дваццаці—дваццаці пяці пацыентаў цэнтра доля надзеі ў рэшце рэшт зводзіцца да нуля...

Маленькае аддзяленне працуе ў рэжыме рэанімацыі. Наведвальнікаў сюды звычайна не пускаюць. Аб гэтым паведамляе строгі надпіс на дзвярах з кодавым замком. Але ўрачы ўсё ж іншы раз парушаюць імі ж устаноўленыя правілы.



Сюды трапляюць тыя, чый арганізм падвергся інтаксікацыі. Не толькі наркаманаў і няўдалых самазабойцаў ратуе брыгада рэаніматолагаў і анэстэзіёлагаў. Атручэнне арганізма нярэдка наступае пасля хірургічнага ўмяшання, пасля перанесенай хваробы, з-за развіцця кішэчнай інфекцыі. Ад апошняй, дарэчы, часта церпяць дзеці. Адночы пяць бальнічных ложкаў з шасці займалі дзеці ва ўзросце ад года да чатырнаццаці. Усе елі нямытую садавіну.

Але самыя частыя пацыенты — тыя, што апынуліся на рэанімацыйным ложку з-за няўвагі да сябе. Ліхшага выпіў — ныркі адмовілі. Загадчык цэнтра з 1981 года Павел Уладзіміравіч Баговіч столькі такіх пацыентаў пабачыў. «Не шануюць людзі сваё здароўе, адносяцца да яго абы-як»,— скардзіцца Павел Уладзіміравіч. Ляжаць жа ў цэнтры пацыенты звычайна падоўгу — да месяца і больш. Адзін дзень знаходжання ў рэанімацыі сёння абыходзіцца дзяржаве ў суму каля паўтара мільёна рублёў.

Трыццаць гадоў таму, калі яшчэ не існавала апарата «штучная нырка», шанцаў выжыць у хворых практычна не было: яды не выводзіліся з арганізма, а паступалі ў кроў, якая разносіла іх раўнамерна па ўсіх органах. Дзякуючы апарату сёння магчыма паступова ачышчэнне крыві ад таксінаў, іх вывядзенне да таго часу, пакуль ныркі пацярпелага поўнасцю не аднавяць сваю функцыю. Аднначасова ў цэнтры могуць аказаць дапамогу шасці пацыентам — столькі машын атрымалі дзякуючы намаганням кафедры рэаніматалогіі і анэстэзіялогіі Інстытута ўдасканалення ўрачоў, загадчыкам якой з'яўляецца прафесар Іван Іванавіч Канус. Хутка чакаецца з'яўленне яшчэ адной машыны. Увогуле, тэхніка ў цэнтры самая сучасная — ля ложка кожнага хворага ўстаноўлены маніторы, што фіксуюць паказчыкі стану: пульс, ціск, тэмпературу цела. Любыя змяненні ў здчуванні чалавека кантралююцца камп'ютэрамі. Машыны першымі пачынаюць «біць трывогу», калі раптам спыніцца сэрца ці дыханне. Дарэчы, апараты штучнага дыхання ў цэнтры такама сучасныя, усе замежныя. Яны здольныя дапамагчы і даросламу чалавеку, і немаўляці, самастойна рэагуюць на патрэбы хворага: узмацняюць паток паветра, калі гэта трэба, і робяць яго больш ашчадлівым.

Сёння па ўзроўню абсталявання беларускі Цэнтр інтэнсіўнай тэрапіі вострай ныркачай недастатковасці практычна не ўступае замежным. Але падтрымка ніколі не будзе лішняй. У цэнтр час ад часу паступае гуманітарная дапамога з—за мяжы. Дробязь, здавалася б, — некаторыя медыкаменты, аднаразовыя шпрыцы, посуд, сёе-тое з абсталявання, а толькі гэтага хопіць на некалькі гадоў. Дарэчы, «акулы» беларускага бізнесу на патрэбы суайчыннікаў увагі пакуль не звяртаюць. Мо, час не настаў?



І ўсё ж засталіся ў мінулым часы, калі не хапала медыкаментаў, прэпаратаў крыві, плазмы. Сёння, на шчасце, дзверы ў вечнасць для большасці пацыентаў зачыняюцца з гэтага боку. І тады словы падзякі (хаця, ці магчыма яе выказаць?) чуюць людзі ў белых халатах, што змагаюцца за жыццё кожнага ўдзень і ўначы. Ну а яны жадаюць сваім пацыентам больш сюды не вяртацца, хоць калектыў цэнтра славіцца сваім прафесіяналізмам і добразычлівасцю.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

**На здымках**: медсестра Вера ШЧУЦКАЯ і інжынер-фізік Аляксандр ГАРОШКА рыхтуюць апарат «штучная нырка» да 4-гадзіннага сеанса работы. Наталля ШАРЭЙКА (злева) і Ганна САПОЖНІКАВА — медсёстры.

## Старонка Паўла Глобы

### 27 студзеня, аўторак

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** Дзень крытычны. Не трэба пачынаць рабіць ніякіх спраў, перанясіце ўсе важныя справы на іншы час. Ва ўсім павінна быць асцярожнасць і ўважлівасць. Вялікая верагоднасць быць сурочаным. Схільных да гэтага людзей і дзецям неабходна прыняць меры перасцярогі. Рэкамендуюцца пакорлівасць і пакаянне. Займіцеся хатнімі справамі. Спрыяльны час для інтэлектуальнай працы, вырашэння лагічных задач. Добра пячы хлеб, пірагі. Нельга стрыгчы валасы і ногці, прымаць ванны. Але абавязкова абмыванне перад сном. Процілпаказаны сексуальныя кантакты. Гэта час посту.

**АДЗЕННЕ.** Рэкамендуюцца чырвоны, бэзавы і белы колеры, пазбягайце бляклых і балотных тонаў.

**ПРЫМЕТЫ.** Знайсці металічныя ці бліскучыя прадметы — знак дапамогі. Выпадкова ўпусціць нож — знак таго, што вашы ворагі будуць пакараны. Калі вы разбілі посуд, гэта сведчыць, што вы зрабілі няправільны выбар у жыцці, і вас перасцерагаюць ад памылак. Рассыпаць соль — да сварак і хаосу. Спыніўся гадзіннік — папярэджанне аб страшнай памылцы, якую вы можаце дапусціць.

**СНЫ.** Сімвалічныя сны не збываюцца. Убачыць агонь ці крыніцу святла — знак абароны і дапамогі. Бачыць сябе без адзення — да беднасці і адзіноты.

**МЕДЫЦЫНА.** Неспрыяльны час для любых аперацый. Нельга рабіць клізмы і ўколы ў ягадзіцу. Слабае месца — тоўстая кішка і анус. Забаронены працэдуры, звязаныя з касцявой сістэмай, жоўцевым пузыром, печанню, абменам рэчываў і скурай. Можна лячыць сэрца і страўнік.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

Генрых ДАЛІДОВІЧ

# АДВАРД



АПАВЯДАННЕ

НЕЧАКАНА ўспомніў яго і зніякавеў: не тое, што забыў, а не ведаю яго прозвішча. Думаю, як і іншыя мае аднагодкі, тым болей маладзейшыя. Усе называлі яго проста: Адвард.

Ён нарадзіўся напрыканцы таго стагоддзя ў нашай вёсцы і, паколькі па слабым здароўі і памяшанасці не ўмеў гаспадарыць, мог толькі парабкаваць у сваіх жа братоў і сясцёр, дык неяк даўмеўся яшчэ юнаком марсянуць ажно ў Маскву да нашага аднавяскоўца, а той уладкаваў яго на нейкі хімічны завод. Адвард пасяліўся ў закутку ў земляка, падвучыўся, стаў рабочым, але ненадоўга: абпаліўся кіслатою. Нямала ляжаў у бальніцы, выжыў і, калі яму далі спамогу, змоладу зрабіўся, па-сённяшняму кажучы, пенсіянерам. Можа, каб і выкашкаць пастаяльца, зямляк нараіў яго дворнікам багатаму чалавеку. «Самому графу!» — хваліўся Адвард. Той граф навучыў яго панскай манеры і, вытрасаючы беларускасць ды паланізмы, някепска гаварыць па-руску — словам, па адвардавых расказах лічыў яго ледзь не за сына, а па разуменні нашых янкавінцаў проста пакепліваў і здзекаваўся, меўся ажаніць свайго брамніка з пакаёўкай, што зацяжарыла ад дабрадзея, графа. Падвучаны кухарам, Адвард даў лататы на бацькаўшчыну, дзе радня сабраную ім капейчыну абкапіталіла — купіла кавал зямлі і лесу.

Звяртача наперахоп запрашалі да сябе браты і сёстры, але іх абскакала адна немаладая ўжо дзявуля, яна Адварда прыгрэла і прыласкала (па-вясковаму, «дала нюхнуць»), і ён у неспадзяванa пазнаным любоўным зацьменні адпісаў ёй зямлю. Той толькі і трэба было гэта, яна хутка і рашуча выправадзіла недарэку і ўзяла ў прымы хлопцаздаравілу. Выгналі Адварда са сваіх хат і раззлаваныя браты ды сёстры. Дык ужо тады, у першую сусветную вайну, перад рэвалюцыямі, ён ступіў на шлях «бродяжничества», хоць ніхто і ніколі не назваў яго валацугам. Казалі так: «Ходзіць па людзях». Праўда, у савецка-польскую вайну ён мог асесці і быць за гаспадарапарабка пры маладой удаве, але ён сам уцёк ад яе. «Што ж ты, Адвард? — пакеплівалі з яго старыя мужчыны. — У яе ж такія цыцы! Спаў бы на іх як на падушках!» — «Уга, паспіш з ёю! — прастадушна прызнаваўся ён. — Кешкае і кешкае ўбок, дурэе! Такая ўжо ліпкая, такая ліпкая!» Што тая кабета была прагная да ласак і ўцех з мужчынам, гэта не быў сакрэт: да яе падходжвалі і вайскоўцы, і тутэйшыя, да мужавых трох дзяцей дадалі яшчэ сваіх трох, а яна ўсім гаварыла, што меншыя яе дзеці Адвардавы. Ніхто з іх не стаў падобны на Адварда.

Ды ад іх усіх штосьці засталося ў яго навек: ад графа — цяга да чысціні ва ўсім і панскія манеры (з гэтага нямала скалілі зубы ў вёсцы), ад дзявулі-падманшчыцы — любоў да мачання з катлетамі, рабрынкамі і да ячменнай кавы з млекам, ад ліпкай удавы — боязь жанчын.

Пасля савецка-польскай вайны Адварду параілі падацца ў Маскву «па свае паперы». Яго затрымлівалі як шпіёна, трэслі і «лупілі як ката»: чырвонаармеец хвастаў папругаю, пілсудчык — «гумай». Ды неяк вырваўся і ўжо на «крэсах усходніх» стала пачаў «хадзіць па людзях». Амаль у кожнай вёсцы нашага краю выбіраў тры-чатыры хаты, дзе сама заможна, чыста і дзе смачна гатуе гаспадыня, дзе не п'юць і не буяняць, паводзяцца з ім пачціва. Прыходзіў, жыў у гэтых сем'ях па чарзе два-тры дні, расказваў навіны, а то і гаварыў, дзе і што можна купіць, калі трэба, памагаў па гаспадарцы і сыходзіў у суседнюю вёску. І так па крузе, з месяца ў месяц, з году ў год, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе.

У 1939 годзе ён зноў сустрэўся, як казаў, «з другімі саветамі», яго схапілі, патрымалі ў КПЗ некалькі дзён, дапыталі, але на гэты раз у толькі што створаным НКУС не білі, адпусцілі «на все четыре стороны»; «Нет, не польский диверсант! Блаженный! Идиот!»

Як мне расказвалі, у вайну ён таксама спачатку нацярпеўся: яго, пераходнага з вёскі ў вёску, хапалі за кіршэнь, таўклі прыблуды-паліцэйскія (у нашай вёсцы многія неслі па змусе самаахову, але ў паліцыі ніхто не быў), немцы, польскія акаўцы, партызаны, пасля ўсе насміхаліся, але ўрэшце адчапіліся і нават пачалі падкормліваць. Праўда, яго хацелі расстраляць засланыя з Масквы спецгрупы (пра іх, да слова, напісаў брыдкаваты раман «В августе сорок четвертого» В. Багамолаў. Што ж, выдатных твораў беларускай прозы для экранізацыі няма!)

Нашы Янкавіны ў блакаду спалілі,, а людзей вывезлі ў Нямеччыну. Мой бацька-бежанец быў адным з першых, хто, пашлюбаваўшыся з такой жа, як і ён, бежанкай, пачаў адроджваць родную вёску — праўда, не ў цэнтры, а на хутары, на бацькавай вотчыне. Дык вось і туды, на хутар Амшарок, пачаў завітваць Адвард. З якога часу — зусім не помню і я, самы старэйшы з дзяцей.

Нагадаўся Адвард і напомнілася, як ён ідзе на наш хутар: невысокі, трошкі прыгнуты, а то і гарбаваты, сухенькі, вузкатвары і доўганосы, улетку ў чаравіках і клёшным касцюме, увосень — пад плашчом і пад парасонам альбо паўдужкай парасона пачэпленым на левую руку, узімку — у ботах ці валёнках, у паліто. Ягоная радня ці памерла, ці з Нямеччыны з'ехала ў Англію, Амерыку і Аўстралію, той-сёй з яе абжыўся, перагарэў, забыў старыя крыўды і праз Чырвоны крыж пачаў прысылаць небараку пасылкі. Адвард выбіраў з іх самую новую ўпадабаную апратку, тоесёе хаваў на запас (тры ці што ягоныя валізы былі ў трох розных вёсках, нейкі час адзін яго чамадан захоўваўся ў нас — не на хутары, а ў шасцідзесятыя гады ўжо ў вёсцы), а іншае раздаваў. Ці самым бедным, ці тым, у каго ён начаваў і сталаваўся. Прызнаюся, я ў старэйшых класах насіў падораныя ім амерыканскія каляровыя кашулі і меў гэткага ж колеру хустачкі, шкарпэткі, мог начэпліваць і ўзорыстыя ці паласатыя яркія гальштукі, але саромеўся: у нас хадзілі ў плашчах ці паліто, насілі гальштукі толькі начальнікі ды настаўнікі. Калі хто з тутэйшых вось так ухарошваўся, дык толькі на вяселле ці калі ішлі да касцёла.

У нас на хутары Адвард любіў у будні дзень таўксціся ў бацькава-калгаснай кузні — глядзець, што і як кавалюе бацька, як я, налоўчаны, раздзімаю мяхі, ляпаю малатком, памагаю зубіць сярпы, шліфую напілкам адлітыя лыжкі і грамаадводы, а калі ён памагаў у чым, дык круціць тачыла, калі абціралі сякеру, што мне было яшчэ не па сіле. А па святах заходзіў, каб паесці любімых бліноў, мачання з катлетамі і рабрынкамі, папіць ячменнай кавы з вяршкамі. Я тады ўпершыню ўбачыў, што можна есці не толькі лыжкай і відэльцам, але яшчэ і з адмысловым тупаватым нажом (у нас былі сталовыя нажы, але яны звычайна ляжалі загорнутыя ў ручнічок у шафе, але для Адварда маці брала адзін з іх, і Адвард... чараваў: адчыкваў ад бліна, катлеты маленечкія кавалачкі, няспешна нёс відэльцам у левай руцэ тое ў рот і пацiху пяражоўваў, а пасля, адставіўшы маленькі палец на руцэ, браў кубачак з каваю і, смакуючы піў, а ўрэшце даставаў чысценькую хустачку і тыцкаў ёй па сваіх губах. Карацей, графіў (ад слова «граф»).

За паўсотню гадоў з яго выветрылася руская мова, пачала вытрасацца і польская, але калі на гнядым раз'ятраным жарабцы да нас на хутар заязджаў маладзь падліты старшыня, бранскі «мужик» (у нас гэтае слова мела зусім іншы сэнс) і нядаўні партызан, які ў вайну трос Адварда ды і не толькі яго, Адвард мяняўся. Калі старшыня падпікваў: «Почему, Адвард, не в колхозе?», «Иди ко мне заместителем!», Адвард маўчаў, а то і нямеў перад тутэйшым уладаром, а калі той міласціва са сваёй вайсковай фляжкі наліваў яму ў шклянку пякучай самагонкі, у Адварда прарывалася тое даўняе, маскоўскае: «Весьма благодарен!», «Здравия желаю!» і іншае, што я, хутарскі хлапчук, які нават у вёску, што была за вярстку, рэдка хадзіў, — дык вось я проста рот раззяўляў ад адвардавых, як мне здавалася, вельмі вучоных слоў. Але там, на хутары, Адвард у нас не начаваў: нашая з аднаго пакоя хатка была невялікая, а ў ёй — нашыя бацькі, нас, пяцёра дзяцей, ды яшчэ бяздомная Нінка, што аднекуль прыбілася агаладалая і абвошаная, дык мая маці яе абмыла, апранула, адным словам. абчалавечыла і, паколькі Нінка была круглай сіратою, пашкадавала і пакінула ў нас, за што не раз і каялася: Нінка была працавітая, паслухмяная, але курыла і піла, а п'янай ці то плакала пра сваю няшчасную долю (мы так і не ўведалі, хто яе бацькі і дзе яны дзеліся), ці мацюжнічала, крычала на нас: «Я всех вас ненавижу!», у цвярозым стане кідалася перад маці на калені, цалавала ёй рукі: «Тетя! Миленькая! Хорошенькая! Единственная! Лучшая в мире! Пожалейте! Не выгоняйте! Пропаду я!» На пачатку шасцідзесятых нам трэба было пераязджаць з хутара ў вёску, на зямлю бацькавага бацькі (тое месца ніхто не займаў), дык Нінка пайшла ад нас і я пра яе больш ніколі і ні ад кога амаль нічога не чуў. Казалі, што яна нібыта ў Дзяржынску на швейнай фабрыцы.

Начаваў — і не аднойчы — у нас Адвард ужо ў вёсцы, у новай вялікай хаце. І не толькі начлежыў, але і памагаў маёй маці «ўхаджацца», паколькі яна, бедная, цяжка захварэла ў маладым веку. Калі я, студэнт, а пасля і настаўнік, заяўляўся дома, то тут жа заходзіў да нас і Адвард: ён ужо загадзя ведаў ад бацькоў, што я прыеду. Мы перакідваліся нейкімі нязначнымі словамі, сядзелі за сталом, хадзілі ў грыбы. Мая жонка, пабачыўшы Адварда, заўсёды прывозіла яму кулёк пячэння і цукерак, дзе і «чыкулядныя», дык ён вельмі ўпадабаў яе, хваліў маці: «О то і нявестка ў вас, пані Яніна!» — «Харошая?» — «Ой, харошая, пані Яніна!» Хутка і ўсе ў навакольных вёсках ведалі, што ў Далідовічавага Гэніка з Янкавін «надта харошая жонка».

Адвардава памяшанасць была вельмі дзіўная: часамі ён быў цалкам свядомы, меў развагу селяніна, які запыніў сваю вучобу пасля першага класа царскай школы, але нямала чаго назапасіў ад жыцця, а часам на яго штосьці находзіла, і ён тады ўцякаў ад людзей у лес, а там, гаварылі, крычаў, выў, плакаў, махаў рукамі, можа, нават і начаваў, а затым, калі яго перабірала, вяртаўся ў нейкую вёску і доўгі час быў белы, бязмоўны, і ўсе шчыра спачувалі яму і ні пра нішто не пыталіся. Пасля адыходзіў і зноў станавіўся як і ўсе нармальныя людзі.

Ездзячы аўтобусам, Адвард ніколі не браў білета, яго не чапалі не толькі кантралёры, але і розныя начальнікі ды міліцыя. Ён быў вольны птах і, паўтараю, блізка знаўся толькі з лічанымі людзьмі: імгненна адчуваў насмешку, паблажлівасць, ману, хітрасць і яшчэ, як гаварылася, любіў чысціню, смачную любімую ежу.

Здаецца, не чытаў кніг і газет, не глядзеў тэлевізара («А, туманэ!), толькі, як сам бачыў, зрэдзь слухаў радыё, найперш тады, калі перадавалі песні ці казкі. Тады ён падоўгу сядзеў каля прыёмніка, прыкрываў вочы далонню і «внимал», проста азараючыся душой. Калі я паказаў яму сваю першую кніжку «Дажджы над вёскай», ён пачціва патрымаў яе, пагартаў, і нібыта здзівіўся: «Гэта ж трэба самому напісаць! Ды па-нашаму, па-тутэйшаму!» — «Па-беларуску, дзядзька Адвард». — «Беларусы — дурні!» — рэзка выпаліў ён мне. «Чаму?» — «Во дурні!» — «Дык, выходзіць, дзядзька Адвард, і я дурань? І мая жонка?» — «Не. Вы — тутэйшыя.» — «Але ж няма нідзе такой нацыі. Ёсць рускія, палякі, немцы, французы і ёсць мы, беларусці ці, лепш сказаць, праваслаўныя і акаталічаныя беларусы». — «Не, беларусы там, пад Магілёвам», — гарачыўся ён, можа, і маючы на ўвазе тое, калі яго пад Смаленскам у дваццатыя гады білі чырвонаармейцы.

Не ведаю, ці быў у яго пашпарт, а калі быў, дык дзе яго прапісалі. Затое здзіўляюся і радуюся заадно дабрыні нашых людзей: калі Адвард знікаў надоўга, дык яны трывожыліся за яго і радаваліся шчыра, калі ён заяўляўся. Здавалася б, чалавек толькі замінае — ажно не, *нечым ён* быў і *вельмі патрэбен*. Чым? Ды вось і тым, што і я не мог не напісаць пра яго!

Для мяне і маёй жонкі нейкі дзесяцігоддзямі аднолькава стары ён пражыў ці не за дзевяноста гадоў. Усё сам загадзя сабраў сабе на пахаванне: новы касцюм і абутак, грошы на труну і на жалобны стол, наказаў, што і каму аддаць з яго рэчаў.

Казалі, на бацькаўшчыне, у нашай вёсцы (не, не ў нашай хаце, куды ён пасля ранняй смерці маёй маці пачаў заходзіць вельмі рэдка: вельмі баяўся нябожчыкаў) памёр ён ціха. Лёг спаць і не прачнуўся. Пахавалі яго належна. Праўда, помніка яму не паставілі, але добрыя людзі яго магілку выцэментавалі, абпольваюць, садзяць кветкі, а на дзень ушанавання памёрлых ставяць кветкі.

Нялёгка бываць на магілках, дзе пахаваны дзяды і бабуля, маці, родныя і сваякі, сябры, а то нашмат маладзейшыя знаёмыя людзі, з імі штосьці знікла тое, што вельмі дорага душы. Як вось шчыра шкода, што ўжо няма знаёмага і зусім... невядомага мне Адварда, якога любілі добрыя людзі і якога любіў і я. Няхай гэтае маё слова будзе яму калі не помнікам, дык проста яшчэ адным добрым словам!

## ВЫСТАЎКІ

***— Як цяжка плыць нам да чужога берага,***
***Як радасна дамоў вяртацца зноў,***
***Калумб калісьці нам адкрыў Амерыку;***
***Ізраіль — адкрывае Іваноў!***

Такую жартоўную рыфмаванку я пакінуў у кнізе для наведвальнікаў у час адкрыцця выстаўкі фатаграфій вядомага журналіста Юрыя Іванова. Гэта выстаўка створана з фотаздымкаў, зробленых на вуліцах гарадоў Ізраіля, і з'яўляецца, на маёй памяці, першай у Беларусі, бо яшчэ ніколі нашы аматары выяўленчага і фотамастацтва не мелі магчымасці ўбачыць вачыма знакамітых майстроў гэтую не вельмі далёкую ад нас, але вельмі ж малавядомую краіну.



Для Юрыя Іванова гэты вернісаж — адзін са шматлікіх, якія ён ужо ладзіў на працягу свайго творчага жыцця. Раней яго прадстаўлялі не інакш як «вядомы савецкі майстар», бо шмат гадоў фотажурналіст аддаў працы ў беларускім аддзяленні Агенцтва друку «Навіны». Цяпер ён з'яўляецца ўласным карэспандэнтам Расійскага інфармацыйнага агенцтва і, змяніўшы «шыльду» сваёй рэдакцыі, па-ранейшаму творча і самааддана працуе ў Беларусі.

Мая жартоўная рыфмаванка з'явілася ў Кнізе водгукаў побач з запісамі шматлікіх паважаных гасцей, якія сабраліся на адкрыццё. Вядомыя мастакі, артысты, навукоўцы, літаратары, кампазітары — усе яны прыйшлі павіншаваць гэтага шчырага чалавека, з якім іх лучыць даўняе сяброўства. І ўсе ў адзін голас зазначылі: творы, якія дэманструюцца на выстаўцы, зроблены майстрам з пільным, добразычлівым позіркам.

Дарэчы, пераканайцеся самі, завітайце ў залы Нацыянальнага мастацкага музея, дзе ў гэтыя дні працуе выстаўка. А каб запэўніць вас у аб'ектыўнасці аб'ектыва Юрыя Іванова, нагадаю словы, сказаныя на адкрыцці адказным супрацоўнікам Пасольства Рэспублікі Ізраіль у Беларусі: усё на фотаздымках паказана дакладна.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**






***НА ЗДЫМКАХ: аўтар выстаўкі і некаторыя творы ізраільскай фотакалекцыі.***

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by. http://www.zvyazda-daily.minsk.by.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.118. Індэкс 63850.
Зак. № 405.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12